# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №18 (139) 9 ЖНІЎНЯ 1999г.


зь Беларусі за суботу й нядзелю

## Халіп у Амэрыцы, Антонаў у Польшчы

Яшчэ адзін хлапец з «Маладога Фронту» папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы — Уладзя Антонаў. І прытулак, мабыць, дадуць. Колькі ж іх цяпер у той Польшчы, Чэхіі, Бэльгіі, Амэрыцы! Не нажыцца ж едуць, і будучыня Беларусі якраз ім найперш неабыякавая. Але едуць. Пасьпяваюць зьехаць. Ужо Раман Якаўлеўскі піша ў інтэрнэце, што мае неафіцыйную інфармацыю пра намер Ірыны Халіп, рэдактаркі газэты «Имя», прасіць палітычнага прытулку ў ЗША. Такі вось працягваецца сыход... Супраць Халіпінай газэты «Имя», як і супраць Антонава, у Беларусі ўзбуджана крымінальная справа. Пагроза крымінальнай справы «за раскіданьне ў менскім мэтро каля 50 тысяч улётак з заклікам да дзяржаўнага перавароту» вісіць і над аўтарам «НН» Вадзімам Карцавым — сьледчы Міхаіл Ельчын афіцыйна паведаміў яго, што зьбірае матар'ялы на ўзбуджэньне яе.


Уладзімер Антонаў

## 17 000 старонак за 4 дні

Судзьдзя Вера Тупік дала Андрэю Клімаву 4 дні на прачытаньне 17000 старонак ягонае крымінальнае справы, сабраных у 33 тамы. Клімава абвінавачваюць, што ён зь сябрамі накраў 3 мільярды 800 мільёнаў рублёў, будуючы дарагія дамы — праз завышэньне коштаў мантажных работ і праектаў. Фактычна, судзяць ня Клімава-бізнэсмэна, а ўвесь раньні капіталістычны лад. І Клімава-дэпутата. В.Ганчара, які пратэставаў супраць праследаваньня дэпутата, судзьдзя тут жа выдаліла з залі. Сьведкаў, а іх 70 чалавек, пачнуць апытваць не раней чым на тым тыдні.

## Куліка апраўдалі, анархістаў засудзілі

Судзьдзя Іна Шыйко разглядзела апошнія справы з Дня Незалежнасьці. Нашага слаўнага мастака Яўгена Куліка апраўдала, а анархістаў, Сяргея Шмялёва (аўтара «Нашай Нівы») і Вадзіма Касьцюкевіча, засудзіла на 20 мільёнаў кожнага, хоць на міліцэйскім фільме іх не было. Сказала, што «раз яны прыйшлі на Плошчу Перамогі пад час акцыі апазыцыі і нават на судзе размаўляюць па-беларуску, дык хай іх бацькі плацяць, каб больш не пускалі дзяцей-студэнтаў, куды ня трэба».

## Брытанцы ў балотах Палесься

Брытанскае Каралеўскае таварыства абароны птушак і Праграма разьвіцьця ААН дадуць грошы на захаваньне і ахову балотаў Дзікае, Спорава і Званец на Берасьцейшчыне й Піншчыне (ля Прыпяці і Ясельды). Гэта крынічныя нізінныя багны, і захаваць іх вельмі важна для біяразнастайнасьці Эўропы, камэнтуе БелаПАН.

## За адмову паклёпнічаць на Чыгіра, Багданкевіча і Пупейку Алесь Вечар трапіў перш у турму, а пасьля ў эміграцыю

Чытайце на старонцы 3.

# У НАВАГРАДКУ ЗРУЙНАВАЛІ ПОМНІК XIII ст.

Днямі, прыехаўшы ў Наваградак, я пайшоў старога помніка, каб зрабіць новыя фотаздымкі для сваёй калекцыі. Але помніка на месцы не было. Адно грувасьцілася вялікая гурба камянёў і цэглы-пальчаткі. Тутэйшыя людзі расказалі, што нехта ўзяўся даводзіць будынак да ладу. Гэты чалавек прыгнаў тры пажарныя машыны, якія палівалі помнік вадой — мабыць, адмываючы яго ад пылу і сьмецьця. Старая цагляная кладка добра набрыняла вадой, і помнік нечакана абваліўся — імгненна, праз хвіліну, як тры работнікі выйшлі зь вежы на перакур.

На ўгодкі Міцкевіча столькі грошай ўбабурылі на плітку, ліхтары й клюмбачкі ў цэнтры Наваградку, але ніхто не паклапаціўся пра сапраўдны помнік. А гэта ж быў самы стары помнік Наваградка, які набыў сваю сучасную форму пад канец XV ст., калі старую абарончую вежу Малога замку перабудавалі і паднавілі. Даўнейшая ж вежа была квадратнаю ў пляне і яе ўзьвялі на зломе XIII і XIV ст.

Пад час Паўночнае вайны вежу падпалілі швэды. У часе расейскай акупацыі, у 30-я гады XIX ст., яе прыстасавалі пад вялікі млын-вятрак, які добра бачны на старых здымках места. Па вайне помнік ніяк не выкарыстоўвалі. І вось пры канцы ліпеня 1999 году помнік проста змылі зь зямлі.

Зьміцер Вайцаховіч. Фота аўтара





**АД РЭДАКЦЫІ**

*Зруйнаваны помнік — адзіная вежа наваградзкіх замкаў, што амаль цалкам захавалася да нашых дзён. Яна ўваходзіла ў комплекс Малога замку, які ляжаў крыху ніжэй ад Верхняга замку на дзядзінцы, там, дзе сёньня хаціны й гародчыкі. Малы замак паставілі яшчэ ў XI ст., каб бараніць пасад. Пры канцы XIII ст. у замку зрабілі браму з камянёў. Брама-вежа была адзіным мураваным умацаваньнем Малога замку. У XVI ст. яна, ацалеўшы пасьля крыжацкіх ды крымскіх наездаў, мела ўжо чатыры васьмігранныя паверхі. Гэткім чынам, ідзецца пра зьнікненьне аднаго з самых старажытных здабыткаў нашага дойлідзтва. Вежа Малога замку была равесьніцай Камянецкае вежы й Калоскае царквы...*

*Спэц. кар. «НН» Севярын Квяткоўскі высьветліў, што ініцыяваў рэканструкцыю вежы сп.Пятро Сільвановіч, родам зь вёскі Асташына, што пад Наваградкам. Доўгі час ён працаваў у Расеі на Поўначы. У 90-х Сільвановіч зарэкамэндаваў сябе мэцэнатам і падзьвіжнікам. Стварыў у Наваградку гатэльчык, вымасьціў дарогу ў Асташына, аднавіў рыбныя сажалкі, фундаваў сьвяткаваньне Купальля і Калядаў. Але галоўнай марай Сільвановіча было стварыць у колішняй надбрамнай вежы вятрак, а таксама млынарскія майстроўні і музэй млынарства (вежу выкарыстоўваў мясцовы гаспадар пад дрывотню)...*

*Пятро Сільвановіч атрымаў распрацаваны архітэктарамі праект і з дазволу мясцовай улады пачаў працу...*

*Сёньня ён шукае грошы на адбудову вежы. Магчыма, аднаўленьне надбрамнае вежы Малога замку, а не ветрака, пад які ў XIX ст. яе прыстасавалі, стане пачаткам аднаўленьня нашай старажытнай сталіцы.*

тэма нумару:

# СКРАДЗЕНЫ СКАРБ-2



У мінулым нумары «НН» мы распавялі пра новы расейскі закон аб вяртаньні культурных каштоўнасьцяў тым краінам, якія ўдзельнічалі ў антыгітлераўскай кааліцыі. Беларусь у сьпіс гэтых краінаў ня трапіла толькі таму, што была на той час у складзе СССР, праваправеамніцай якога стала Расея. Тым ня менш, найболей нашых нацыянальных рэліквіяў у розныя часы было вывезена менавіта ў Расею. Сёньня размова пойдзе пра адну такую рэч — Крыж Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай.

Вось ужо амаль стагодзьдзе шукаюць яго беларусы па ўсім сьвеце. А некалькі гадоў таму з блаславеньня Расейскай Праваслаўнай Царквы і кіраўніцтва краіны была створана копія гэтай рэліквіі. Дублікат мусіў супакоіць шукальнікаў. Маўляў, «пытаньне закрытае», і можаце больш не прарывацца ў запаснікі Эрмітажу, нават калі ваш крыж і знаходзіцца там. Цяпер, пасьля аб'яднаньня з Расеяй, гэта ўсё наша агульнае, брацкае. Так у культурную праблему ўмяшалася палітыка.

Геаграфія гэтай гісторыі ахапіла паўсьвету — ад Нью-Ёрку да Магілёва, ад Ерусаліму да Санкт-Пецярбургу. Яе ўдзельнікамі сталі беларускія навукоўцы і палітыкі, дыпляматы і спэцслужбы, а таксама баўгарская прарочыца Ванга і расейскі пісьменьнік Юліян Сямёнаў. Сёньня адрас Крыжа па-ранейшаму застаецца таямніцай. Хоць спэцыялісты і ўказваюць на месца, дзе яго трэба шукаць.

Працяг тэмы на старонцы 6.

пэсымістычны прагноз

# Калхоз памерамі зь Беларусь

***Лукашэнка заявіў, што будзе кіраваць краінай яшчэ як мінімум сем гадоў. Ва ўмовах сыстэмнага крызысу гэтая заява гучыць як пагроза.***

Пяці папярэдніх гадоў на тое, каб увагнаць 10-мільённую краіну ў фармат калхоза, відавочна, не хапіла. А іншых задач ня ставілася. На шляху стварэньня «эфэктыўнай мадэлі кіраваньня» раз-пораз узьнікалі то грамадзкая думка, то рэаліі суседніх краін. Але ён ішоў да свае мэты зь непахіснай упартасьцю — рабіў калхоз. Чытаў тэмы школьных творапісаў, пераўтварыў будынак ЦК у знаёмае сэрцу праўленьне, ганяў брыгадзіраў-міністраў, тыкаў старэйшым і быў «очань благадаран» ім за паслушэнства. Не разьлічыў аднаго: калі краіну сьціскаць да ўзроўню калхоза, дык у выніку ўся краіна і будзе даваць ва ўсіх галінах столькі, колькі дае калхоз. І страты пры сьціскаваньні непазьбежныя: «уцечка мазгоў», адміраньне працоўнай актыўнасьці «лішняга» насельніцтва, заняпад «лішніх» земляў... Але яму ўсё яшчэ верыцца, чорт пабірай, што можна — усё можна, як у «Гарадцы», так і ва ўсёй Беларусі. Сказаў — зрабілі, прыкрыкнуў — пабеглі, дарма што акадэмікі ці дырэктарат.

І вось так яшчэ сем гадоў. Як мінімум. Міжволі паспачуваеш краіне. Бо прапаршчык, пастаўлены кіраваць франтамі, ня робіць ад гэтага нават маёрам, ня тое што маршалам. У прапаршчыка бог парадку — едзінаабразіе. А маршал — катэгорыя творчая. Маршал улічвае аб'ёмы, разнастайнасьць людзей і ляндшафтаў, інакш — прайграе.

Пад знакам сьціскаваньня краіны да памераў калхоза беларусам ужо пяць гадоў навязваецца мадэль руска-праваслаўнай ідэнтыфікацыі. Хоць гэта толькі адзін бок традыцыі, які ня можа быць накінуты ўсяму народу. Ёсьць яшчэ і варыянт заходне-каталіцкі, ёсьць нэапратэстанцкі (пяцідзясятнікі і іншыя). Ёсьць атэістычна-савецкі. Ды ці мала чаго ёсьць у цэлага народа! І калі адну з гэтых прыкметаў разглядаць як прыкмету ўсёй нацыі, тады непазьбежныя канфлікты, бо паразуменьня паміж гэтымі варыянтамі няма і ня можа быць. Адзінымі мы пачуваемся тады, калі апускаем згаданыя тэмы. Пачуцьцё адзінства дае нам мэнтальная блізкасьць, адзінства зямлі і нацыі — гэта экстэнсіўныя чыньнікі, і культура, паходжаньне, мова — гэта інтэнсіўныя і найбольш пэрспэктыўныя чыньнікі. Аднак з усяго багацьця варыянтаў цяперашні кіраўнік выбраў толькі ўсходнюю арыентацыю. У бліжэйшы час гэта не прывядзе да канфліктаў, але ўжо сёньня прыводзіць да сьціраньня адметных нацыянальных рысаў у прынцыпе. «Мы такія ж рускія» — паўтарае Лукашэнка і зноў дастае з пранафталіненага куфра слова «ўзьяднаньне» («вассаедзінеціе»), быццам некалі нас нехта з расейцамі разьядноўваў. Нас, наадварот, ляпілі на працягу двух стагодзьдзяў у адно, ды толькі прырода пярэчыла, брала сваё, прыводзячы да ўтварэньня то БНР, то БССР, то РБ...

Працяг на старонцы 2.

лісты ў рэдакцыю

## У Ракуцёўшчыне — свой Мірон

*Штогод у Ракуцёўшчыне, што каля Радашкавіч, дзе нейкі час жыў Максім Багдановіч, праходзіць сьвята паэзіі «Ракуцёўскае лета». І на гэты раз людзей электрычкаю прыехала шмат. Швэндаліся сярод усіх, крыху апусьціўшы галовы, мясцовыя міліцыянты. Ім, відаць, было ніякавата — ня справіліся са службай — не зьнялі і сёлета з высозазнай вышкі бел-чырвона-белы сьцяг, які быў на ёй вывешаны ноччу мясцовым Міронам. Прыяжджалі нават пажарнікі, але і яны ня справіліся. Людзі паглядалі на штандар і радаваліся, што ён будзе вісець на вышцы не адзін дзень, а гэта ўжо хоць нейкая, але перамога над часам, у якім мы жывём. Акрамя ўсяго, і моладзь сьмела хадзіла ў Ракуцёшчыне зь вялікім бел-чырвона-белым палотнішчам, нібы напамінаючы ўсім, хто ТУТ гаспадар.*

*На жаль, хоць і цягнулася сьвята паэзіі амаль тры гадзіны, але асабліва ня ўразіла прысутных. Праўда, гучалі са сцэны, што каля Максімавай крыніцы, і прамовы, і вершы, і песьні, але «Жыве Беларусь» прагучала толькі адзін раз, пасьля «Пагоні» Багдановіча.*

**В.А.**

## Юбілей Уладыкі Мікалая

*18 ліпеня парафія БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта адзначала 45-я ўгодкі сьвятарства й 30-я ўгодкі япіскапскага сану Дастойнага Мітрапаліта, Першаерарха БАПЦ Уладыкі Мікалая.*

*Урачыстасьці пачаліся з раніцы ў царкве багаслужбай. Пасьля гімну «Магутны Божа» вернікі перайшлі ў залю, дзе адбылася сьвяточная застольная бяседа пад кіраўніцтвам старшыні парафіяльнай рады Аляксандра Бушкевіча. Парафіяне шчыра дзякавалі Ўладыку. Пакуль ня стаў япіскапам, ён 15 гадоў працаваў на фабрыцы і служыў адначасова ў царкве. «Многія лета» Ўладыку Мікалаю!*

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

***

*Вельмі спадабалася стылізацыя падачы кароткіх паведамленьняў на першай паласе. Неяк няпэўна выглядае другая паласа. Думаю, што «Лісты ў рэдакцыю» павінны займаць ня менш як палову гэтай старонкі. Рубрыка «Гутарка» ладная. Але варта прыцягваць шырэйшае кола суразмоўцаў, а ня толькі людзей, зьвязаных з палітыкай (хоць мы ўсе зьвязаныя з гэтай бабай). «Люстра Дзён» — тое, што трэба. Толькі б варта дадаць нешта кшталту «Весткі з усіх куткоў Беларусі». Няблага было б, каб храналягічныя рамкі рубрыкі «Тэма» былі распашыраны й на ранейшыя часы, а не на адно нашае цікавае стагодзьдзе. Рэфлексіі Адамовіча пад любою рубрыкай — заўсёды супэр. Нешта даўно Вы не друкавалі ягоных вершаў. Нясьцерпна чакаем. Новаўводзіна — паласа «Навука», мякка кажучы, насьцерагла. Баюся, што пра навуку будзе пісацца неяк не па-нашаніўскаму ці што... Ня ведаю. Старонка «Гісторыя» ці «Эпізоды гісторыі» мусіць быць, але больш яскравейшай, узроўню «Фальсыфікатаў...» Генадзя Сагановіча. «Варштаты» безумоўна лепшыя за «Грамафон». Наконт «Культуры» і «12» ніякіх заўваг ня маю. Можа толькі — друкаваць купон бясплатнай прыватнай абвесткі так, каб выразаўшы яго, не псаваць тэкстаў на старонцы «Культура». Зьбіраю я бо «НН» у падшыўкі.*

**Сяргей Балахонаў, Гомель**

## Бедныя, бо забылі, што беларусы

Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны распаўсюдзіла Зварот да беларускіх рабочых. У Звароце наўпрост выказаная думка пра тое, што на чыёй мове ты гаворыш, той краіне і ідзе даход ад тваё працы. Калі задумацца, дык яно так і выходзіць. Гаворыш па-расейску — непасрэдна расейскім інтарэсам і служыш, умацоўваеш Расею, тады як сам жывеш бядней. Думаеш, што гэта ня так, што і тут, у нас — Расея? А вось жа гэта вялікі падман. Пачытай зварот ТБМ:

*«Мы зьвяртаемся да ўсіх вас разам і да кожнага пэрсанальна: да цябе — сьлесар і да цябе — электрык; да вас — рамонтнікі, наладчыкі, зборшчыкі; і да вас — будаўнікі, чыгуначнікі, шахцёры; мы зьвяртаемся да тых, хто сёньня стаіць ля станка і штурвала ці сядзіць перад экранам кампутара, хто сваёй працай стварае дабрабыт народа, краіны і свой асабісты, але з кожным працоўным днём не багацее, а наадварот, становіцца ўсё больш і больш бяднейшы. Так будзе да таго часу, пакуль вы ня ўспомніце, што вы — беларусы і што жывяце ня дзе-небудзь, а тут — у Беларусі.*

*Паглядзіце на літоўцаў, эстонцаў, палякаў, чэхаў ды іншыя народы, якія 10 гадоў таму былі аднолькавыя зь беларусамі жабракі. Але цяпер яны з кожным днём багацеюць, а беларусы — бяднеюць. Чаму? А таму што яны жывуць і працуюць на сваёй роднай мове, а значыць — для сябе і сваіх народаў.*

*Беларускую мову ўлада выгнала са школаў, фабрык і заводаў для таго, каб вашы дзеці і вы не адчувалі сабе гаспадарамі сваёй зямлі, а вынікі вашай працы каб належалі ня вам, а суседу, на мове якога вам цяпер вызначылі жыць і працаваць.*

*Дарагія сябры!*

*Вяртанне да роднай мовы — гэта шлях да незалежнасці, а значыць — шлях да вашага дабрабыту. Жывіце, працуйце, размаўляйце, вучыце сваіх дзяцей па-беларуску, патрабуйце гэтага ад свайго начальства і ад уладаў Беларусі!»*

■

дзе варта быць



Ціна Мадоці

У Нацыянальным музэі гісторыі й культуры (вул. Карла Маркса, 12) распачалася **выстава мэксыканскай фотамастачкі Ціны Мадоці «1929»**. Гэтая прыгожая італійка ў свой час здымала для мэксыканскай газэты «EL MACHETE» і марыла паціснуць руку Сталіну. Але, гледзячы на тыя здымкі сямідзесяцігадовай даўніны, цяжка паверыць, што яны рабіліся для камуністычнай газэты. Кожны яе здымак — гэта цэльны мастацкі твор з надзвычайнаю (а нам, беларусам, асабліва сёньня блізкаю) энэргетыкай барацьбы. Гітары, патранташы, самбрэра...

Як гэта ні сумна, а лета пакрысе сканчаецца. Кожны сьпякотны дзень цэніцца ўсё болей. Асабліва тымі, хто вымушаны застацца ў горадзе, пакінуўшы мары аб Барсэлёне й Палянзе на наступны год. Але ўсё роўна хочацца лішні раз плёхнуцца ў ваду, хай і не ў марскую, але небясьпечную (у сэнсе розных «палачак» ды іншай трасцы). Як нам паведамілі ў менскай санэпідэмстанцыі, у ваколіцах сталіцы ёсьць яшчэ месцы, дзе **МОЖНА КУПАЦЦА**. Тым, хто мае сваё аўто, лепш накіравацца на вадасховішча **Пціч** (20 км Берасьцейскай трасы), дзе побач таксама можна наведаць музэй народнай архітэктуры й побыту ў Строчыцах і гарадзішча на Менцы. Астатнія жа аўтобус 24-га, тралейбусы 28-га, 53-га і 34-га маршрутаў давязуць да вадасховішча **Цнянка** (Зялёны Луг-3).

У чацьвер, **12 жніўня** на нашым кантынэнце — **вялікі футбольны дзень,** які не абышоў і Беларусь. Два нашыя клюбы стартуюць у розыгрышы Кубку UEFA. Барысаўскі «БАТЭ» на сваім полі прымае маскоўскі «Лакаматыў» (Расея), а бабруйская «Белшына» сустракаецца зь нікасійскаю «Амоніяй» (Кіпр). Абодва матчы будуць трансьлявацца па БТ. Першы ў 17.55, другі ў 23.00. Пажадаем нашым перамогі на роднай зямельцы. Пойдзеце на стадыён, бярыце сьцяг.

У Нацыянальным мастацкім музэі (вул. Леніна, 20) **да 22 жніўня** працягваецца выстава некалькіх менскіх мастакоў пад прэтэнцыйнай назваю **«На мяжы стагодзьдзяў»**. Паглядзець ёсьць што нават не абазнанаму ў сучасным мастацтве наведніку. Графічныя працы **Валерыя Славука** на страшныя сюжэты беларускай міталёгіі ўражваюць і дасканаласьцю выкананьня, і неўтаймаванай фантазіяй мастака. Незвычайным эратызмам напоўненыя працы скульптара **Алега Варвашэні**, які, здаецца, у любым згібе дрэва знаходзіць непаўторныя лініі жаночай фігуры. Таксама могуць зацікавіць гульні з фарбамі жывапісца **В.Шылко.**



Валеры Славук. «Двубой», 1984

**14 жніўня** ў Слоніме пройдзе **зьезд татарскай моладзі** Беларусі пад дэвізам **«Захаваем веру і традыцыю ў новым стагодзьдзі»**, у якім бяруць удзел юныя прадстаўнікі 25 татарскіх грамадак Беларусі. 13 жніўня тамсама адзначаць 5-годзьдзе адбудаванага мячэту. Даведацца можна праз тэл. 261-84-93 (Ібрагім Канапацкі, старшыня мусульманскай татарскай грамады Менску).

# КАЛХОЗ ПАМЕРАМІ ЗЬ БЕЛАРУСЬ

*Працяг са старонкі 1.*

«Мы такія ж рускія»... Мы глядзім тэлевізію, прызначаную для рускіх (ніхто не пытаўся ў нас, хочам мы гэтага або не), мы гаворым моваю рускіх і вучым на гэтай мове сваіх дзяцей (вядома, гэта быў наш бацькоўскі выбар. Толькі паспрабавалі б мы выбраць адваротнае, як гэта зрабілі бацькі Беларускага ліцэю — і школьныя клопаты зьмяніліся б для нас на бясконцую барацьбу супраць бюракратычных перапонаў і адкрытых спробаў адабраць памяшканьне), мы хочам у Расею (такіх менш за пяцьдзясят працэнтаў, але *a priori* — мы ўсе). На апошняй сэлектарнай нарадзе Лукашэнка ўжо гаварыў не са старшынямі аблвыканкамаў, а з «губэрнатарамі»... Як жа хутка наша калхозная намэнклятура ператварылася ў новых Мураўёвых ды Курловых!.. Цяпер усходнія вобласьці і Менская цішком усунутыя ў асацыяцыю расейскіх суб'ектаў гаспадараньня. Ня так, дык гэтак.

Ідэнтычны сцэнар разгортваўся ў Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. І тады, здавалася, запхнулі тую Беларусь у Расею, афармілі ўсё, забаранілі мову, нагналі, як і цяпер, чыстых русакоў на адказныя пасады, абазвалі вобласьці губэрнямі... І што? Адразу ж пачало набіраць сілы СВАЁ. Кнігі, газэты, партыі, школы, бажніцы... І ўжо да кастрычніцкага перавароту гатовыя былі абвесьціць сваю краіну зноў. І так сталася. Так будзе й цяпер. Адно шкада, замест таго, каб нармальна, прыгожа і багата жыць сваёй краінай, зноў пакладзем жыцьцё на тую вечна экспэрымэнтальную нудоту, хаджэньне ня раз пройдзеным гістарычным колам.

Лукашэнка сказаў, што будзе прэзыдэнтам яшчэ, як мінімум, сем гадоў. А чым тады будзе беларускі народ?.. Кіраўнік ад першага дня — безь ніводнай ідэі для сваёй краіны, бяз нават больш-менш поўнага ўяўленьня пра яе — вялікую і розную ў сваіх праявах, безь любові да яе — абяцае нам, што пасядзіць яшчэ, як мінімум, сем гадоў. Навошта? — тут гэта рытарычнае пытаньне.

«Рэальны кіраўнік» з «эфэктыўным кіраваньнем» пасуе ўжо нават там, дзе мусіў бы даць рады паводле самых калхозных уяўленьняў. Я маю на ўвазе ганебны выпадак — зьнікненьне людзей. Пры той аўтарытарнай мадэлі ўлады, якую стварыў Лукашэнка, лётаючы на верталёце па калгасах, менавіта ён нясе поўную адказнасьць за лёс сваіх бяспраўных апанэнтаў. Дарэчы, і сэлектарныя верталёты ні да чаго добрага не прывялі. Купляем цяпер прадукты ў Літвы.

Культ хамства і зьвядзеньне багатай эўрапейскай краіны да маштабаў калхознага парадку, які й сам ужо дарэшты здыскрэдытаваў сябе, вядзе і будзе весьці адно да дэградацыі Беларусі. Яшчэ сем гадоў. Як мінімум.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Алесь Вечар: «ВЫГНАНЬНІК, НАШЧАДАК ВЫГНАНЬНІКА»

Тацяна СЬНІТКО




Анатоль Вечар з сынам, 1996 год.

Зь Беларусі зьехаў чалавек. Алесь Вечар. Зьехаў назаўсёды, але з надзеяй калі-небудзь вярнуцца. Яшчэ ў пачатку 90-х ён некалькі разоў адмаўляўся ад прапановаў калег-навукоўцаў паехаць папрацаваць у замежжа. Цяпер жа Алесь ня бачыць для сябе іншага выйсьця.

Героі гэтага матэрыялу зрабілі сьвядомы выбар — не паступіліся годнасьцю, чаго патрабавалі ад іх тыя, хто сёньня ўзурпаваў уладу у краіне. Міхаіл Чыгір пяты месяц у турме. Алесь Вечар, наадварот, тры месяцы як выйшаў на волю. А «сеў» ён яшчэ ўлетку 1996-га. За тое, што ня стаў удзельнікам бруднай гульні супраць тагачаснага прэм'ера.

## Пачатак

*«Мяне затрымалі 5-га чэрвеня 1996-га. Проста затэлефанавалі супрацоўнікі міліцыі ды сказалі, што ім са мной трэба нешта ўдакладніць. Я за сабой парушэньняў ніякіх не адчуваў. Я займаўся цалкам законным бізнэсам і навуковымі справамі — стварэньнем Інстытута пэрспэктыўных тэхналёгіяў пры Беларускай інжынэрнай акадэміі. Натуральна, я пагадзіўся на сустрэчу».*

Алеся павезьлі ў адзін з апорных пунктаў міліцыі ў Фрунзенскім раёне Менску. Там жа пачалі прымушаць падпісаць загадзя падрыхтаваныя «паказаньні».

*«З гэтых «паказаньняў» вынікала, што нібыта я, разам з сынам Міхаіла Чыгіра, сынам Станіслава Багданкевіча і з Аляксандрам Пупейкам арганізаваў злачынную групу, якая займалася буйнамаштабным крымінальным аўтабізнэсам на тэрыторыі Заходняй Эўропы й краінаў СНГ. Фінансавалася гэта ўсё нібыта пры ўдзеле старэйшага Багданкевіча, а пакрывалася — старэйшым Чыгіром. Натуральна, я гэткую лухту падпісваць адмовіўся».*

З Аляксандрам, сынам тагачаснага кіраўніка ўраду, Вечар быў знаёмы. Зь сем'ямі вядомых Пупейкі й Багданкевіча — жыў па суседзтве. З гэтага ён ніколі не рабіў таямніцы. Пасьля адмовы падпісваць ілжывыя сьведчаньні пачаліся пагрозы сьледчых на адрас Алесевай сям'і. Але быў у сьледзтва і іншы разьлік.

*«Я браў удзел практычна ва ўсіх акцыях Беларускага Народнага Фронту, пачынаючы з пабоішча ў Курапатах 30 кастрычніка 1988 году, — распавядае Алесь Вечар. — У мяне пыталіся, чаму я не хачу цяпер даць паказаньні супраць людзей, якія зьяўляюцца праціўнікамі Фронту. Пераконвалі, што, маўляў, Пупейка, Чыгір і Багданкевіч заўсёды перашкаджалі БНФ».*

Непакоячыся за лёс родных, Алесь паабяцаў «падумаць». Але неўзабаве даведаўся, што ягоная сям'я ўжо за мяжою і ёй нічога не пагражае. Тады ён проста адмовіўся «супрацоўнічаць» прапанаваным яму чынам. Паводле словаў А.Вечара, у адрозьненьне ад іншых затрыманых, што сядзелі разам зь ім, яго тады не зьбівалі. Патрабавалася, каб здаровы і інтэлігентны сьведка па магчымасьці шчыра пераконваў народ у злачыннасьці Чыгіра з Пупейкам перад відэакамэрай. Такому, як Вечар, паверылі б. Але разьлік не апраўдаўся. Нават калі Вечара закалвалі адмысловымі ўколамі, ён не згадзіўся. Праз тры гады Алесь даведаецца, што менавіта гэтыя «лекі» выклікалі ў яго цукровы дыябэт.

Выбар быў прапанаваны недвухсэнсоўны: альбо ілжэсьведчаньні — альбо турма.

## Як «знайшоўся» артыкул

Прыкладна ў той самы час міліцыя затрымлівае некалькіх маладых людзей, якія жывуць у адным зь Вечарам раёне Менску. Усіх іх Алесь ведае ў твар. Пры сустрэчах нават віталіся.

Маладых людзей абвінавачваюць у крадзяжах аўтамашын. Ня нашая задача зараз разьбірацца, хто з тых хлопцаў сапраўды меў дачыненьне да крадзяжоў. Але факт, што сьледзтва імкнецца любымі шляхамі далучыць Алеся да справы. Як аднаго з членаў злачыннай групы. Потым у абвінаваўчым заключэньні будзе сьцьвярджацца: Вечар Аляксандар Алімавіч, 1960 году нараджэньня, адукацыя вышэйшая, разам з Куцапалавым А.Н., Карунным А.В., Масакоўскім Ф.А., Чыжыкавым Ю.А. і Калтовічам Д.А., «дзейнічаючы ў складзе ўстойлівай арганізаванай групы з разьмеркаваньнем роляў, маючы адзіны намер на крадзяжы маёмасьці грамадзян у асабліва буйных памерах, у пэрыяд з сакавіка па травень 1996 году таемна зьдзейсьнілі шэраг крадзяжоў аўтатранспарту грамадзян». Канкрэтна Вечару інкрымінаваўся ўдзел у крадзяжах машын 16, 22 і 29 траўня. Урон, нанесены ім грамадзянам, на думку сьледства, складаў 134 330 000 рублёў.

Перад тым, як адправіць Вечара і яго «падзельнікаў» у сьледчы ізалятар, іх пратрымалі ў камэры часовага ўтрыманьня гарадзкога сьледчага ўпраўленьня ня тры дні, а тыдзень. Чаму? У Алеся павінны былі сысьці сьляды ўколаў, у астатніх — сінякі ад зьбіцьця. «Распрацоўка» зьбіцьцём не абмежавалася. Аднаму з «арганізаванай групы» міліцыянты выбілі вока, на ўсё жыцьцё пакінуўшы інвалідам. Другога хлопца згвалтавалі. Так сталічнае сьледчае ўпраўленьне здабывала доказы віны.

Апынуўшыся ў СІЗА, падсьледныя пачалі адмаўляцца ад дадзеных раней паказаньняў.

## Крымінал ці палітыка?

Калі А.Вечар адправіў у Маскоўскі суд сталіцы скаргу на незаконны арышт, яе разгледзелі ў адсутнасьць яго самога і яго адваката. Інакш і быць не магло. Выпускаць яго з-за кратаў ніхто ня думаў: напярэдадні сумнавядомага рэфэрэндуму агалоска была небясьпечная для ўладаў. А маўчаць пра «падкопы» пад прэм'ер-міністра Вечар дакладна ня стаў бы. Таму тэрмін сьледзтва падаўжалі, а нічога новага ў справу ўжо ня ўносілася. Нават дата пачатку суда ў апошні момант была перанесеная з разьлікам, каб працэс пачаўся пасьля рэфэрэндуму.

Ні ў адным месцы «сваёй» крымінальнай справы А.Вечар не фігураваў як злачынца. Доказаў ня толькі бракавала — не была даведзеная прысутнасьць Вечара на месцы нібыта ўчыненых ім злачынстваў. Не ўдалося давесьці й папярэднюю змову зь іншымі, і ўжываньне разам з падзельнікамі алькаголю (згодна з матэрыяламі справы, кралі выключна ў стане алькагольнага ап'яненьня).

Пры поўнай адсутнасьці доказаў віны Алесь Вечар быў прызнаны вінаватым. 15 сакавіка 1997 году Фрунзенскі раённы суд сталіцы прысудзіў яму 6 гадоў калёніі.

*«Мне далі большы тэрмін, чым знакамітаму ўгоншчыку самалёта зь Беларусі ў Швэцыю. Яму далі пяць гадоў, ён адбыў адзін, — адзначае Алесь. — Мяне прызналі вінаватым у злачынстве зь ліку асабліва цяжкіх, за якія некалькімі гадамі раней быў прадугледжаны расстрэл. Калі б у свой час Кебіч гэтага не паадмяняў, мяне б маглі прыгаварыць і да расстрэлу».*

3 студзеня 1997 г. Прэзыдыюм Менскага гарадзкога суда перагледзеў справу і ў дачыненьні да А.Вечара адмяніў прысуд. Мера стрыманьня пакінутая такая самая, аднак пастаноўлена перагледзець справу ў судзе ў іншым складзе судзьдзяў. Такое ж самае рашэньне прынята 17 сакавіка 1998 году Судовая калегія па крымінальных справах Менгарсуда. Абодва разы ў прынятых юрыстамі дакумэнтах адзначаецца адсутнасьць доказаў віны А.Вечара.

У выніку Алесь быў выпушчаны з турмы толькі ў красавіку 1999 году — па амністыі...

## Працяг

Пасьля выхаду на волю Алесь сутыкнуўся з мноствам непрыемных сюрпрызаў. Даведку аб вызваленьні з калёніі УЖ 15/25 (г.Шклоў) атрымаў дзіўную. Са словаў Алеся, на ёй двойчы падроблены ягоны подпіс і адзін раз — надпіс «Пашпарт атрымаў». Усяго гэтага ён на згаданым дакумэнце сам не пісаў.

Высьветлілася, што ў Фрунзенскім райваенкамаце раптам зьніклі ўліковыя дакумэнты Вечара. На запыт юрыдычнай кансультацыі Партызанскага раёну, дзе жыў пасьля турмы Алесь, райваенком А.Краўчанка даў адказ, што нібыта Вечар ніколі не стаяў на ўліку ў гэтым ваенкамаце (хоць, паводле лёгікі, як ён тады на момант арышту мог быць прапісаны ў Фрунзенскім раёне?). Ці зьяўляецца А.Вечар ліквідатарам аварыі на Чарнобыльскай АЭС — «ваенкамат зьвестак ня мае». Такім чынам, Алесь згубіў усе свае чарнобыльскія ільготы, а адпаведнае пасьведчаньне ліквідатара, шмат гадоў таму выдадзенае Фрунзенскім жа ваенкаматам — як бы й несапраўднае. Але гэта не ўсё. Без вайсковых дакумэнтаў узьнікаюць праблемы з прапіскай, атрыманьнем пашпарту...

Як на тое, пайшлі дзіўныя просьбы чыноўнікаў. Скажам, былая жонка Вечара, робячы дзіцёнку замежны пашпарт, пакасае авіраўцам нятарыяльна завераную пісьмовую згоду бацькі свайго сына. А ёй у адказ: «Хай прыедзе асабіста з пашпартам». Да іншых, у каго няма праблем з дакумэнтамі, такіх патрабаваньняў не было. З дакумэнтамі няздомнага спадара Вечара папрацавалі ня менш нязломныя з савецкіх часоў таварышы са спэцслужбаў.

## Няма чалавека — няма праблемы

«Адгукнуўся» і цукровы дыябэт, выкліканы ўколамі на сьледзтве. Толькі пасьля вызваленьня Алесь Вечар даведаўся, што яшчэ напачатку 1996-га лекары прадпісвалі яму пастаянны кантроль узроўню цукру ў крыві. За ўвесь час зьняволеньня такога кантролю ніхто, вядома, не праводзіў.

Магчыма, менавіта на гэтую небясьпеку і спадзяваліся? Хацелі ж праз «бэнээфаўца» Вечара прыбраць са шляху Лукашэнкі тагачасных прэм'ера, кіраўніка Нацбанка, знакамітага бізнэсоўца. Мо й яшчэ каго. Проста плян ня ўдаўся. Проста й бязь Вечара апанэнты пачалі сыходзіць. Так Алесь перажыў турму.

І яшчэ. Падчас адсідкі Вечара ў турме адзін са знаёмых яго былой жонкі Веры прапанаваў ёй дапамогу. Схема была простай: грошы — твае, сувязі й магчымасьці — мае. Вера пагадзілася, але толькі выкінула на вецер даволі немалую суму. Пракапенка Алег Васільевіч (гэтак завуць таго знаёмца) слова не стрымаў. Наадварот, пазьней ён, уварваўшыся ў кватэру Веры і яе сына зь пісталетам, учыніў рабаўніцтва.

Са словаў былой жонкі Алеся Вечара, Пракапенка пастаянна набіваўся на сяброўства і дэманстраваў доказы свайго дачыненьня да вышэйшых эшалёнаў прэзыдэнцкай улады. Ён называў сябе «саветнікам прэзыдэнта па эканоміцы». Апошнія два гады «саветнік» сядзіць у менскім СІЗА. Суд мусіў распачацца ў траўні, але справу накіравалі на дасьледаваньне. Ня выключана, што Пракапенка быў пешкай у гульні, якая ішла вакол сям'і Вечара, а ўсьлед — Чыгіра, Багданкевіча й Пупейкі.

*«Яшчэ мой дзед завяшчаў мне, беларусу, жыць і працаваць у Беларусі. У канцы 20-х ён, галоўны рэдактар часопіса «Шляхі калектывізацыі», за рэзкую крытыку «принудиловки» быў выключаны з партыі й пазбаўлены магчымасьці працаваць па спэцыяльнасьці. Больш за 30 гадоў ён блукаў па бяскрайніх абшарах тагачаснага СССР, песьцячы мару вярнуцца на Бацькаўшчыну. Напачатку 60-х яна збылася — ён вярнуўся ў Менск сусьветна вядомым біяхімікам.. Яго таксама неаднойчы спрабавалі прымусіць выступіць супраць яго перакананьняў — лысенкаўшчына, барацьба з вайсманізмам-марганізмам для мяне не абстракцыя, а гісторыя маёй сям'і».*

Са словаў родных Алеся Вечара, пасьля ад'езду тры тыдні ніякіх зьвестак ад яго няма. Пакуль няма. Мяркуецца, што ўсьлед за Алесем зьедзе ў Канаду й ягоная сям'я. Яшчэ некалькі суайчыньнікаў пакінуць Радзіму...

*Аўтар выказвае падзяку Праваабарончаму цэнтру «Вясна-96» за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.*

P.S. Калі паласа ўжо была падрыхтаваная, Алесь Вечар патэлефанаваў былой жонцы Веры. Сказаў, што ён зараз у Польшчы і ў яго ўсё нармалёва. ■

Паліна СЬЦЕПАНЕНКА

# СУДОВАЯ ДРАМА

***Скульптар Міхаіл Іiькоў, дачка якога Марыя загінула 30 траўня на пераходзе станцыі мэтро «Няміга», зьвярнуўся ў Праваабарончы Цэнтар «Вясна-96». Я запісала ягоныя словы: «Як можна вызначыць, колькі каштуе жыцьцё чалавека? Колькі, напрыклад, каштаваў бы Марк Шагал, калі б яго ў 15 гадоў задавілі? У меня здольнае дзіця, мастацкія здольнасьці неверагодныя. Лепей, чым у мяне. Дзіця мае задавілі ў 15 гадоў. Хто вызначыць кошт жыцьця?»***

5 жніўня ў судзе Маскоўскага раёну ў Менску адбыўся разгляд грамадзянскага зыску чатырох ісцоў: Ніны Іньковай (маці Машы Іньковай, 1983 г. н., якая загінула 30 траўня), Натальлі Навакоўскай (маці Алеўціны Навакоўскай, 1983 г. н., якая загінула 30 траўня), Вольгі Янцовай (маці Алены Янцовай, 1983 г. н., якая загінула 30 траўня) і Вячаслава Чабаняна (атрымаў 30 траўня чэрапна-мазгавую траўму). Зыск быў прад'яўлены да Менгарвыканкаму і ГУУС Менгарвыканкаму. Трэцімі асобамі выступалі арганізатары «сьвята» радыёкампанія «Мір», АТ «Аліварыя» і «Класс-клуб Джас-Крафт» (прадстаўнік апошняга не зьявіўся).

Прадстаўнікамі законных інтарэсаў ісцоў выступалі юрысты грамадзкага аб'яднаньня «Прававая дапамога насельніцтву». Інтарэсы Ніны Іньковай у працэсе прадстаўляў Алег Воўчак — былы сьледчы пракуратуры, вэтэран вайны ў Аўганістане. Зусім нядаўна (21 ліпеня) Алег Воўчак быў затрыманы пасьля народных гуляньняў з нагоды заканчэньня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі і моцна (да страты прытомнасьці) зьбіты ў будынку Маскоўскага РАУСу. Са словаў сьведкаў, міліцыянты зьдзекліва называлі Воўчака «пракурорам», а ў РАУСе пры гэтым гучна грала музыка, каб заглушыць гукі катаваньняў.

На судзе прысутнасьць Алега Воўчака выклікала агрэсію ў чыноўнікаў. Прадстаўнікі Менгарвыканкаму і ГУУС Менгарвыканкаму выказаліся супраць удзелу Воўчака ў працэсе на падставе таго, што ён быў дэпутатам гарсавету. Судзьдзя Гусакова адхіліла гэтае хадайніцтва.

Гэты выпадак мне пракамэнтаваў юрыст Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Валянцін Стэфановіч:

*«Прадстаўнік гарвыканкаму заявіў хадайніцтва аб адводзе Воўчака, таму што ён быў дэпутатам гарсавету. Ну і што з таго, што ён быў дэпутатам? Ёсьць пералік у Грамадзянскім працэсуальным кодэксе асобаў, якія ня могуць быць прадстаўнікамі: недзеяздольныя, непаўналетнія і г.д. Але ж там няма такога, што дэпутат гарсавету ня можа быць прадстаўніком законных інтарэсаў ісцоў у грамадзянскім працэсе».*

Было відавочна, што чыноўнікі не зьбіраюцца адказваць па законе за сваю злачынную непрафэсійнасьць. Прадстаўнік ГУУС Менгарвыканкаму Радомскі заявіў хадайніцтва аб тым, што слуханьне па грамадзянскай справе павінна быць перапынена ў сувязі з тым, што ўзбуджаная крымінальная справа па факце трагедыі 30 траўня 1999 мая, вядзецца сьледства, і суд ня можа вызначыць ступень віны адказчыкаў для таго, каб кампэнсаваць маральную шкоду. Прадстаўнікі ісцоў адхілілі гэтае хадайніцтва і заявілі, што суд мае права ў працэсе заслухаць непасрэдна бакі, сьведкаў, высьветліць грамадзянскую віну і спагнаць матэрыяльную кампэнсацыю за маральную шкоду. Аднак судзьдзя Гусакова спыніла працэс і пайшла ў «совещательный» пакой.

Перапынак быў доўгі. Заля суда — поўная. Тут і бацькі, і родныя, і сябры загінуўшых, журналісты, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў. Падчас перапынку бацькі паказвалі адно аднаму фотаздымкі сваіх дзяцей, тыя, хто быў незнаёмы паміж сабою — знаёміліся. Гучалі пытаньні: «А ў вас хто? А чыя вы мама?» А яшчэ распавядалі сны... Адна дзяўчынка прыйшла да сваёй маці і сказала: «Мама, ня плачце па мне, а плачце аб тых, хто патоне ў мэтро!» Такое папярэджаньне. І яшчэ адна дзяўчынка зьявілася ў сьне і адбылася такая размова:

— Мы ж цябе пахавалі! Дзе ты была?

Не сказала.

— Ты што, пазваніць нам не магла?

— Адтуль нельга пазваніць! — адказала.

— А чаго ты прыйшла?

— Там нясмачна кормяць!

І пайшла ў краму набываць ёгурты. Пасьля гэтага маці занесла сваёй дачцэ на магілу ёгурты й цукеркі.

А яшчэ тыя, хто зьяўляецца ў снах сваім бацькам, кажуць: «Там, дзе мы цяпер, так добра, што нават уявіць немагчыма».

Перапынак скончыўся, зьявілася судзьдзя Гусакова і абвясьціла рашэньне пра тое, што немагчыма на сёньняшні момант вызначыць долю віны і віну адказчыкаў, таму разгляд грамадзянскага зыску чатырох ісцоў будзе перапынены да заканчэньня крымінальнай справы, пакуль зьвязіца яе вынікі.

Бацькі загінуўшых дзяцей былі абураныя вынікам судовага паседжаньня, які ў чарговы раз пераканаліся, што ўлады наўмысна цягнуць час, каб урэшце абвясьціць: «вінаватых няма!»

Гаворыць Натальля Навакоўская:

*«Напярэдадні мы азнаёміліся са справай і ведалі, што ёсьць такое хадайніцтва, прапанова ГУУС Менгарвыканкаму аб прыпыненьні працэсу, таму, тое, што тут адбылося, не было для нас нечаканым. Але мы разьлічвалі на чыста чалавечыя пачуцьці і адносіны судзьдзі. Таму што кожны судзьдзя можа прыняць сваё ўласнае рашэньне. Але вы бачыце, якія былі прадстаўнікі — чыноўнікі Менгарвыканкаму — ім усё чалавечае чужое. Яны ня хочуць ні з кім лічыцца, яна ўсё адхіляюць. Нават адмаўляюць тое, што мэр гораду падаваў у адстаўку.*

*Мы расчараваныя ў дзеяньнях судзьдзі. Я хачу сказаць, што мы, канечне, на гэтым ня спынімся. Я сваю дачку гадавала не для таго, каб зь ёй так абышліся. Яна ніва піць не хадзіла. Яна пайшла на гэтае сьвята, таму што не магла сабе дазволіць хадзіць па элітных дыскатэках — мы людзі сярэдняга дастатку. А ўся моладзь зайсьдзь імкнецца на сьвята...*

*Я не давяраю і афіцыйнаму сьледзтву. Дакладней, я стала не давяраць! Справа ў тым, што я вельмі імкнулася азнаёміцца з матэрыяламі сьледзтва. Яшчэ задоўга да сарака дзён мне ў выканкаме далі тэлефон. Па гэтым тэлефоне я зьвязалася з палкоўнікам Валер'ем Міхайлавічам Камароўскім, ён вядзе сьледзтва. Мы з мужам да яго хадзілі, ён у шчырай размове сказаў, што ў яго там сын быў і літаральна за дзесяць хвілінаў сышоў. Сказаў, што па казаць нам усе матэрыялы сьледзтва ня можа — гэта таямніца. Паказаў нам толькі здымкі на лесьвіцы, як усе рэчы ляжалі. Я кажу яму: «Вось вы зараз усіх распытвасце, спытайце пра маю дачку...» А ён мне кажа: «Вы ведаеце, я не распытваю, а дапытваю. Я ўжо дапытаў усю міліцыю... Але я вам скажу, што законаў аб праведзеньні такіх мерапрыемстваў няма». У сьледчага ўжо склалася меркаваньне, што ніхто не вінаваты — стыхія. Таму я больш не давяраю афіцыйнаму сьледзтву. Тым больш, яны ня хочуць знаёміць пацярпелых з матэрыяламі сьледзтва. Камароўскі патлумачыў гэта тым, што на працягу двух месяцаў нельга знаёміцца з матэрыяламі, а сьледзтва скончыцца, тады будзе можна. Але зноў-такі не з усімі матэрыяламі. І яшчэ Камароўскі пры сустрэчы нам сказаў, што ў міліцыянэраў, калі яны ўжо зьявіліся на месцы трагедыі, рацыі былі настроеныя на розныя частоты, таму яны не маглі скаардынаваць свае дзеяньні, не маглі ўявіць агульную карціну трагедыі.*

*Я хачу сказаць, што з кожным днём бацькі загінуўшых дзяцей ўсё больш. Усе раскіданыя па розных месцах, але прыяжджаюць, прыходзяць, знаёмяцца паміж сабой, робяцца больш актыўнымі. Нам вельмі цяжка. Мы будзем стварыць таварыства, якое будзе адстойваць нашыя інтарэсы».*



Фота IREX-Promedia

Прадстаўнікі ісцоў (юрысты «Прававой дапамогі насельніцтву») зьбіраюцца абскардзіць рашэньне суда, будуць дамагацца таго, каб суд усё ж такі пачаў разгляд грамадзянскага зыску, заслухаў усіх удзельнікаў працэсу, сьведкаў, вызначыў долю адказнасьці і вырашыў пытаньне па сутнасьці. Алег Воўчак сказаў, што сьледзтва не жадае зь імі размаўляць, яны дасылаюць запыты па тых ці іншых пытаньнях, і паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэксу прадстаўніку пацярпелага на працягу трох сутак павінны даць адказ. Тут жа праходзіць некалькі тыдняў — ніякіх адказаў. Па ўсім відаць, што сьледства настроена на тое, што вінаватых усё ж ня будзе. Колькі чакаць вынікаў крымінальнай справы — невядома, як сказала на працэсе Натальля Навакоўская, яна можа цягнуцца і паўтара гады. Сапраўды, мінімальны тэрмін — два месяцы, але пракурор мае права працягваць тэрмін. А потым сьледзтва прызнае, што вінаватых няма, і паколькі справа была перапыненая да заканчэньня крымінальнай справы, дык скажуць: «Раз няма вінаватых, дык вам няма да каго і зыск падаваць». Бо афіцыйна будзе абвешчана: «Вінаватых няма!» Таму прадстаўнікі пацярпелых будуць дамагацца таго, каб грамадзянскі іск разглядалі цяпер.

*«Мы будзем абскарджваць рашэньне судзьдзі, — кажа Натальля Навакоўская. — Вы ж чулі, што бацькі зьбіраюцца далучыцца да нашых зыскаў.*

*Гэты суд не канец — гэта толькі пачатак».* ■

Вадзім КАРЦАЎ

# ЧАЛАВЕК З РУЖЖОМ

Сталася так, што наша міліцыя, надзвычай занятая палітычным перасьледам апанэнтаў рэжыму, ня можа сёньня выступіць гарантам бясьпекі жыцьця й здароўя для ўсіх грамадзянаў. Зь іншага боку, на падмогу мясцовым бандытам праз адчыненую ўсходнюю мяжу на «гастролі» й на «пастанянку» бесьперашкодна едуць да нас крымінальнікі рознага рангу: ад кішэньнікаў да вароў у законе.

У гэткіх умовах адным са шляхоў супрацьстаяньня злачыннасьці застаецца самаўзбраеньне. Прычым, калі ад нападу на вуліцы можна адбіцца з дапамогаю электрашокера, газавага пісталета ці балёнчыка, дык надзейна абараніць жытло ад уварваньня няпрошаных гасьцей ні памянёнымі сродкамі, ні ўстаноўкаю ўзмоцненых дзьвярэй немагчыма.

Статыстыка сьведчыць, што менавіта кватэры з стальнымі дзьвярыма становяцца аб'ектам пільнай увагі злодзеяў, якія імкнуцца патрапіць туды падманам ці праз вокны. Спраўдзіць прынцып «мой дом — мая крэпасьць», абсьвёўшыся адно пасыўнымі сродкамі аховы, цяжка. Комплексны падыход да арганізацыі бясьпекі сваеі й сваіх родных патрабуе наяўнасьці ў хатнім арсэнале інструмэнта актыўнага ўзьдзеяньня — сама мала сякеры. Аптымальным ж бачыцца набыцьцё агнястрэльнай зброі. Беларускае заканадаўства прадугледжвае дастаткова лібэральны парадак пакупкі спартова-паляўнічых ружжаў. Існуюць, праўда, абмежаваньні тэхнічнага пляну: руля не павінна быць наразною й карацейшаю за паўмэтры.

Але ў гарадзкіх умовах, на блізкіх адлегласьцях, эфэктыўнасьць гладкаствольнай зброі ці не найбольшая з-за шырокага вугла паражэньня і, адпаведна, магутнага спыняючага ўзьдзеяньня пры стрэле шротам, у адрозьненьне ад стрэлу куляй з наразнога



ствала, калі існуе вялікая рызыка непажаданага патрапленьня рыкашэтам. З гэтых прычынаў, дарэчы, «вінчэстэр» — звыклая зброя паліцэйскіх на Захадзе. Як тут не згадаць доблесных аўтаматчыкаў на менскіх вуліцах. Ведаючы характарыстыкі «калашнікава», я рэкамэндаваў бы гараджанам спаць на падлозе й не падыходзіць да вокнаў, каб не схапіць ад якогась ахоўніка парадку шальную кулю.

Першай фармальнасьцю перад набыцьцём стрэльбы стане вашае ўступленьне ў Беларускае вайскова-паляўнічае таварыства з атрыманьнем егерскага білету пасьля здачы простага тэарэтычнага іспыту й пяці стрэлаў па мішэні на стэндзе. Спадзяюся, гэтая працэдура не натхніць кагосьці сапраўды пайсьці ў лес і забіваць беднае зьвяр'ё. Потым у дазваляльнай сыстэме аддзела ўнутраных справаў па месцы жыхарства вам распавядуць, якіх памераў мусіць быць жалезная скрыня для захоўваньня зброі ў хаце (праверыць участковы); якіх лекараў трэба абысьці для атрыманьня мэдычнае даведкі; чаго нельга рабіць, каб не патрапіць пад дзеяньне Крымінальнага кодэксу.

Трэці этап — паход у краму. Не абцяжарвайцеся роздумам — набывайце самае таннае, бо рызыкі купіць нешта няякаснае, што можа разарвацца ў руках, практычна не існуе: усе мадэлі перад паступленьнем у продаж праходзяць шчыльны кантроль і выпрабаваньні ў адмысловым сэртыфікацыйным цэнтры. Найлепшы пяцізарадзік амэрыканскай вытворчасьці каштуе сёньня каля 250 даляраў; іжэўская дубальтоўка — блізу $180; набоі — па 50 цэнтаў.

Не праміну сказаць колькі словаў пра палітычны аспэкт узбройваньня насельніцтва. Калі ў бальшыні хатаў будзе па ствале, дык абыхдзіцца з народам цалкам і з кожным паасобку ўлады будуць больш акуратна, чым цяпер. І канстытуцыйныя правы падумаюць ці кранаць, і сувэрэнітэт пад сумнеў не паставяць, і выдачу заробкаў не зацягнуць. А чаго-небудзь пра якіх-небудзь сургуцкіх неданоскаў і блізка не пачуем. Чалавек з ружжом — суб'ект палітыкі, традыцыйна варты павагі. ■

## Дзякуй Богу, развалілі калгасы

Яшчэ й цяпер у нас у Беларусі пачуеш, што літоўцы развалілі калгасы, вось цяпер і мучацца. Ажно хто мучаецца, а хто не, хутка зразумее той, каму выпадзе наведаць літоўскую краму, дзе вочы разьбягаюцца, а пра чэргі й дэфіцыт мала хто памятае. Гэта ў нас з калгасамі ўсё ў парадку, ідзе бітва за ўраджай ды праводзяцца сэлектарныя нарады на найвышэйшым узроўні. У Літве, ня менш аграрнай за Беларусь, у тэлевізары ўжо даўно не гавораць ані пра надоі, ані пра прывагі. Затое можна пачуць пра візыт міністра гандлю РБ Пятра Казлова, які з дэлегацыяй наведаў Вільню на мінулым тыдні. Беларусь мае «канкрэтную мэту», сказаў Казлоў, закупіць у Літвы вялікую колькасьць сельскагаспадарчай прадукцыі, асабліва мяса і малака, а таксама збожжа, мясных і малочных кансэрваў... Памятаецца, за савецкім часам Беларусь і Літва вялі між сабою сацыялістычнае спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы. Жылі тады беднавата і мы, і яны. Пасьля яны разьвіталіся з сацыялізмам, мы — не. А цяпер самое жыцьцё называе пераможцаў у спаборніцтве.

## Самагубцы

Няма ў Літве ні рэвалюцыі, ані бітвы за ўраджай. Цішыня й спакой. Дык некаторыя літоўцы сумуюць — мо з-за гэтага так шмат людзей робяць сабе сьмерць. 2 ліпеня павесіліся ажно дзесяць чалавек. Звычайна, кажуць у прэсцэнтры МУС, вешаюцца за суткі 3—4 чалавекі. А тут — 10! Штогадовы паказчык — паўтары тысячы самагубстваў. І як ня сумна, Літва ў гэтым ужо пару год — чэмпіён сьвету.

## Гаркун бегае ў прэзыдэнтуру

Пасол РБ у Літве Ўладзімер Гаркун за мінулы тыдзень ажно двойчы наведаў прэзыдэнтуру, дзе яго прымае дарадца В.Адамкуса Альбінас Янушка. Не сядзіцца паслу з-за таго, што два тыдні таму ў Вільні асеў сьпікер Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі. А літоўскія афіцыйныя пэрсоны разглядаюць Шарэцкага двойчы — і як турыста, і адначасова — як легітымнага кіраўніка суседняй краіны — пасьля 20-га ліпеня, калі скончылася Лукашэнкава пяцігодка. Тая дваістасьць не дае Гаркуну спакою. А Шарэцкі тымчасам затаіўся ў дамках Таварыства Беларускай Культуры ды робіць сабе там офіс. Указ пра сваё прызначэньне кіраўніком дзяржавы яшчэ не падпісаў.

С.Х.



Былы віцэ-прэм'ер, пасол Беларусі ў Літве Ўладзімер Гаркун

# УНСО ПЕРАМАГЛО

Хросны ход Рускай Праваслаўнай Царквы па гарадох Украіны быў адменены 5 жніўня самім жа патрыярхам Алексіем II. Ініцыятыва адмены хроснага ходу належала прэзыдэнту Ўкраіны Леаніду Кучму, які зьвярнуўся да патрыярха з гэткаю просьбай, каб пазьбегнуць эксцэсаў на тэрыторыі сваёй краіны.

А эксцэсы, відавочна, былі непазьбежныя. Пра намер не дапусьціць урачыстага шэсьця іншаземных прадстаўнікоў яшчэ да пачатку ходу заявіла арганізацыя УНА-УНСО. Калі ж паўтара тыдні таму 17 унсоўцаў былі затрыманыя міліцыяй пад Харкавам пад час заняткаў фізычнай падрыхтоўкай, у іхную падтрымку выступілі некалькі партыяў на чале з Народным Рухам і Ўкраінская Праваслаўная Царква. УНСО ж адразу абвесьціла «мабілізацыю ўсёй Украіны».

Хросны ход, аднак, безь перашкодаў змог дайсьці да Севастопалю. Паколькі Севастопаль украінцы лічаць «расейскім горадам» (па складзе насельніцтва і праве РФ на свой марфлот), не пускаць у яго РПЦ нацыянальныя радыкалы ня сталі. Але «расейскім горадам» усё і скончылася. У сытуацыі передвыбарчае барацьбы за пост прэзыдэнта нагнятаць міжнацыянальныя канфлікты не асьмельваецца ніхто з тамтэйшых палітыкаў. У выніку 20 дзён, што маскоўскія госьці павінны былі ісьці па Ўкраіне, яны адпачываюць у Маскве. Пасьля чаго мяркуюць нанесьці сяброўскі візыт нам, беларусам.



Абраз Маці Божай Унсоўскай



Хросны ход на асьвячэньне абраза

Арыштаваныя пад Харкавам 17 сяброў УНСО цяпер выпушчаныя пад падпіску аб нявыезьдзе. Крымінальная справа супраць праварадыкалаў па артыкуле «незаконныя збройныя фармаваньні», праўда, застаецца ў сіле, але цяжка сказаць, чым яна скончыцца: акрамя камуфляжных штаноў з кашулямі, у хлопцаў нічога «вайсковага» не знайшлі. Бутэльку з бэнзынам, што была ў аднаго з затрыманых, цяжка лічыць зброяй. На думку прадстаўніка Ўкраінскага Гельсынскага Камітэту Яўгена Дыкага, справа, хутчэй за ўсё, будзе закрытая бліжэй да восеньскіх выбараў. Тым больш што на момант затрыманьня ўнсоўцаў ніякіх сутычак зь міліцыяй альбо расейскімі гасьцямі не адбывалася.

5 жніўня пасьля афіцыйна абвешчанага спыненьня хроснага ходу РПЦ кіраўніцтва УНА-УНСО правяло пераможную прэс-канфэрэнцыю ў цэнтры Кіева каля магілы ўкраінскага патрыярха Мсьціслава. На пытаньне журналістаў, ці не расчараваныя ўнсоўцы адсутнасьцю боек з маскалямі, старшыня палітрэфэрэнтуры УНА Анатоль Лупынос адказаў: «Мы ж не садысты і не мазахісты». Зараз уся ўкраінская прэса, нават расейскамоўная, піша пра УНСО як пра абаронцаў украінскае духоўнасьці. На думку назіральнікаў у самой Украіне, такога адзінства ў ацэнках грамадзкасьцю гэтай даволі адыёзнай арганізацыі не было з часоў камуністычнага маскоўскага путчу 1991 году, калі радыкалы арганізавалі запіс насельніцтва ў атрады самаабароны ад чырвоных рэваншыстаў.

Тацяна Сьнітко

# 6 000 000 000

Сёньня, у панядзелак, а палове на дзявятую, паводле падлікаў Бі-Бі-Сі, нарodзіцца 6-мільярдны зямлянін. Хутчэй за ўсё, гэта будзе мурын ці азіят. 5-мільярдны чалавек нарадзіўся ў 88-м, а 7-мільярдны народзіцца, мяркуюць, у 2012-м.

Апошнім часам на прырост насельніцтва пачалі зважаць меней, але ён працягвае заставацца актуальнай праблемай і неўзабаве моцна ўскладніць жыцьцё Захаду, бо насельніцтва неразьвітых краёў штогод імкліва расьце і неўзабаве, кажуць, у Эўропе й Паўночнай Амэрыцы будуць жыць толькі 5% людзей.

Палітыка рэгуляваньня нараджальнасьці прыносіць плён, і, скажам, насельніцтва Кітаю ўжо зусім стабілізавалася ў сваім памеры. Трохі горш з Індыяй, дзе ўсё псуе адсталая Поўнач, ды з шэрагам іншых азіяцкіх краін. У Афрыцы ж рост спыняюць толькі войны, голад ды якія пошасьці. Моцна расьце насельніцтва на Блізкім і Сярэднім Усходзе. У Лацінскай Амэрыцы пасьля часовага замаруджваньня тэмпаў зноў распачаўся бурны рост (асабліва ў больш адсталых краях, як то Гаіці). Вага мурынаў імкліва расьце на тле такога ж імклівага зьмяншэньня белых.

Сяргей Богдан

Наша Ніва [18] 9.08.1999

# СКРАДЗЕНЫ СКАРБ-2

## *Крыж Эўфрасіньні Полацкай*

### Паходжаньне

Гэты Крыж быў створаны беларускім ювэлірам Лазарам Богшам у 1161 годзе на замову Эўфрасіньні, ігуменьні Спаскага полацкага манастыра. Крыж стаў першай уласна беларускай хрысьціянскай рэліквіяй. У яго былі ўмантаваныя кавалкі Хрыстовага Крыжа з кроплямі ягонае крыві, камяні ад Дамавіны Божае Маці, часьцінкі мошчаў Сьвятых Стэфана й Панцеляймона і кроў Сьвятога Дзімітрыя. Аснова Крыжа была выробленая зь ерусалімскага кіпарысу. Лазар Богша шчыльна ўвабраў свой твор у золата і ўпрыгожыў яго шматлікімі каштоўнымі камянямі й эмалевымі абразкамі сьвятых.

Пасьля сьмерці Эўфрасіньня, якая валодала Крыжом, была далучаная да ліку Сьвятых. У запавеце яна пагражала тым, хто возьме Крыж з манастыра, карамі нябеснымі ды вечным праклёнам. Гэта ведалі ўсе, таму Крыж заставаўся некранутым да 1921 году, калі бальшавікі перадалі яго ў Магілёўскі музэй. У 1941 годзе НКВД падрыхтаваў музэйныя скарбы да эвакуацыі. Праз дзень Магілёў занялі немцы. Так прапаў сьлед рэліквіі, і пачаліся ейныя пошукі па ўсім сьвеце.

Летась у Менску выйшлі дзьве кнігі, прысьвечаныя гэтай нацыянальнай беларускай сьвятыні. Першая кніга «Крыж — краса царквы», падрыхтаваная у Менскім Епархіяльным Упраўленьні Расейскай Праваслаўнай Царквы. Другая кніга, напісаная Ўладзімерам Арловым пры ўдзеле Ганны Сурмач і Барыса Стука, завецца «Жыватворны сымбаль Бацькаўшчыны». Абодва выданьні так ці інакш прымеркаваныя да стварэньня мастаком Кузьмічом копіі страчанага Крыжа.

На маё зьдзіўленьне, дзьве кнігі пра адно аказаліся зусім рознымі — ня толькі фарматам, але й тымі вэрсіямі ды меркаваньнямі, што там выкладзеныя. У епархіяльнай кнізе, напісанай у расейскай стылістыцы мінулага стагодзьдзя, няма нават і згадкі пра доўгія й карпатлівыя пошукі сваёй нацыянальнай сьвятыні, якія вядуць беларусы па ўсім сьвеце, няма і слова пра тое, што Крыж, урэшце, прапаў у Расеі. Менавіта гэтым акалічнасьцям прысьвечаная кніга **Ўладзімера Арлова**. Сам аўтар на маё пытаньне, навошта спатрэбілася яшчэ адна кніга пра Крыж, адказаў наступнае:

*«Мая кніга задумвалася ў працэсе работы над Крыжом мастака Кузьміча, і гэта была нагода згадаць усё, што зьвязана з гэтай рэліквіяй, і паразважаць над значнасьцю Крыжа аўтэнтычнага, над яго лёсам, а таксама над магчымымі кірункамі яго вяртаньня. Гэты Крыж зьяўляецца нашай агульнай рэліквіяй, агульнай для хрысьціянаў усіх канфэсіяў. І нават шырэй — наш Крыж можа паяднаць нас усіх, і мусульманаў і юдэяў...»*

### Да пошукаў далучыўся Юліян Сямёнаў

Сярод розных геаграфічных назваў і шматлікіх іменаў, што паўстаюць на старонках кнігі «Жыватворны сымбаль Бацькаўшчыны», згаданыя й дасьледаваньні журналіста Аляксандра Лукашука, які шукаў Крыж за акіянам, нават у ФБР. Зьвязаўшыся зь ім, першае, што я высьветліў, — нават у даволі аб'ёмістай кнізе Арлова пра акалічнасьці расьсьледаваньняў сказана яшчэ ня ўсё. Што ж не ўвайшло ў кнігу? **Аляксандар Лукашук:**



*«Пад час свайго знаходжаньня ў Штатах, праз сваякоў і знаёмых я займаўся пошукамі і ў галерэі Моргана, і нават у ФБР. Па вяртаньні я працягваў тэму пошукаў у Беларусі і зьвярнуўся да вядомага расейскага пісьменьніка Юліяна Сямёнава. Юліян Сямёнаў меў надзвычайныя магчымасьці доступу да сакрэтнае інфармацыі і асабліва да інфармацыі савецкіх спэцслужбаў, бо ён быў іх улюбёным аўтарам. І адзін са сваіх бэстсэлераў Сямёнаў прысьвяціў пошукам каштоўнасьцяў, якія былі вывезеныя з СССР пад час другое сусьветнае вайны. Ён правёў сэрыю пошукаў у розных эўрапейскіх калекцыях. Паколькі ён апэраваў закрытай інфармацыяй, я меркаваў, што ёсьць сэнс зьвярнуцца і да яго. Я пайшоў да тагачаснага міністра замежных справаў Беларусі Пятра Краўчанкі з гэтай ідэяй. Ён гэта ўхваліў і я падрыхтаваў гэткі ліст ад імя МЗС, у якім выклаў гісторыю Крыжа і вэрсіі ягонага зьнікненьня й знаходжаньня. Ад Сямёнава прасілі падзяліцца альбо зьвесткамі, альбо ідэямі. Гэты ліст, за подпісам Краўчанкі, быў адпраўлены на адрас Сямёнава. На жаль, неўзабаве пісьменьнік памёр, і мы не даведаемся ніколі, ці падрыхтаваў ён адказ. Вось гэта і была самая сур'ёзная спроба выйсьці на крыніцы, блізкія да Лубянкі, але яна скончылася безвыніково...»*

### Надзея на КГБ

Прафэсар Мальдзіс шмат гадоў ачольваў пошукі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай, пра што ў кнізе Арлова напісана вельмі падрабязна. Менавіта Адам Мальдзіс распрацоўваў самыя розныя вэрсіі, шукаючы Крыж і за акіянам, і ў Эўропе, і ў Расеі. Калі я затэлефанаваў паважанаму прафэсару, мяне найперш цікавіла, ці працягваюцца росшукі сёньня. **Адам Мальдзіс:**

*«За мінулы год, бадай, нічога ня зроблена. Я ўскладаю вялікія надзеі на супрацоўніка КГБ з Магілёву, спадара Багдановіча, які вельмі імпэтна займаецца гэтым пытаньнем. Толькі па гэткіх каналах цяпер можна нешта зрабіць».*

І сапраўды, КГБ вельмі сур'ёзна займаўся гэтым пытаньнем зь першых дзён незалежнасьці Беларусі. У 97-м годзе газэта «Звязда» надрукавала вялікі дэтэктыўны артыкул Сяргея Багдановіча «І ўсё ж сьлед вядзе на ўсход...» Сп. Багдановіч апытаў дзясяткі людзей у зьвязку з гэтай гісторыяй і зрабіў адназначную выснову: Крыж — у Расеі. У той жа «Звяздзе» быў надрукаваны й артыкул кіраўніка прэсавае службы КГБ Генадзя Сенюкова, які пацьвердзіў высновы свайго калегі. На гэта зьвяртае ўвагу і **Ўладзімер Арлоў:**

*«Калі пару гадоў таму прэсавы сакратар КГБ даваў інтэрвію газэце «Звязда», яно звалася «Крыж Эўфрасіньні трэба шукаць у Расеі». Аднак у сьвятле сёньняшняга закону Расеі аб рэстытуцыі ягонае вяртаньне малаверагоднае...»*

Уладзімер Арлоў згадаў нядаўна прыняты ў Расеі закон аб рэстытуцыі, аб вяртаньні культурных каштоўнасьцяў тым краінам, якія ўваходзілі ў антыгітлераўскую кааліцыю.

Пазьней КГБ пачаў замоўчваць вынікі сваіх дасьледаваньняў. За два апошнія гады больш — ані слова... Хоць гэтая ўстанова па-ранейшаму выяўляе шмат клопату аб рэліквіі, пра што падрабязна напісана ў епархіяльнай кнізе «Крыж — краса царквы». Складваецца ўражаньне, што ўся справа па тэрміновым стварэньні копіі Крыжа курыравалася менавіта спэцыялістамі КГБ. Дзеля таго, каб хутчэй «зьняць пытаньне». І аўтары епархіяльнай кнігі здымаюць гэтае пытаньне: маўляў, вывезьлі рэліквію фашысты і зьнішчылі... А замест сапраўднага Крыжа давайце шанаваць новы, работы Міколы Кузьміча.

### Ці можа копія замяніць сьвятыню?

Гэты новы крыж таксама ўнікальны. Мастак у кнізе падрабязна распавядае, з чаго і як выраблены ягоны твор. У крыж укладзеныя рэліквіі з Палестыны, Расеі і зь Берасьця. За гэткую няпростую й таленавітую працу мастака павіншавалі і патрыярх Расеі Алексій II, і мітрапаліт Філарэт, і Аляксандар Лукашэнка, і прэм'ер Лінг... Праўда, ніводзін зь іх не сказаў пра тое, што сапраўдны Крыж Сьвятое Эўфрасіньні, жывая сьвятыня, можа пыліцца недзе ў расейскіх сховах... Але мастак вырабіў мастацкую рэч, якой цяпер моліцца праваслаўны люд. Ці можа стаць новы крыж сьвятыняю? **Уладзімер Арлоў:**

*«Я думаю, безумоўна, можа... Але для гэтага патрэбны пэўны час. Нават калі будзе знойдзены сапраўдны Крыж, яны могуць суіснаваць як дзьве сьвятыні. Бо крыж мастака Кузьміча, вобраз Крыжа Сьвятой Эўфрасіньні, дзякуючы намаганьням царквы мае ўсе тыя ж рэліквіі, што меў і Крыж аўтэнтычны, нават кавалачак дрэва з Крыжа Гасподняга...»*

**Аляксандар Лукашук:**

*«Не. Гэта абсалютна выключана. Гэта кшталтам таго, каб была вандалам нейкім зьнішчаная мадона Рафаэля, нехта паспрабаваў бы яе ўзнавіць і абвесьціць што гэта ёсьць твор Рафаэля. На маю думку, новы Крыж — гэта практыкаваньне ў нейкіх іншых сфэрах...»*

**Адам Мальдзіс:**

*«Мне здаецца, што можа. Чаму? Па-першае, пры ягоным вырабе скарыстаныя мошчы, рэліквіі са сьвятых земляў. Па-другое, ён ужо твор мастацтва сам па сабе. І таму я не падзяляю скептычнага погляду на тое, што ён ня мае права быць, што ён зьяўляецца падробкаю. Мы, вядома, павінны разумець, што гэта зусім ня той Крыж, і да яго трэба ставіцца як да новага твору мастацтва. Нездарма ж мы гэтак доўга спрачаліся наконт таго, як яго называць: «крыж, створаны паводле вобразу Крыжа».*

Спробы зрабіць копіі з Крыжа былі й раней. Вядомы беларускі дзяяч у Латвіі Сяргей Сахараў, напрыклад, пісаў у 1939 годзе пра адну гэткую копію ў мястэчку Абэрнэ (цяпер Пыталава). Няцяжка, пры сучасных тэхналёгіях, вырабіць і трэцюю, і пятую копіі ды таксама іх высьвяціць. Тады што ёсьць Сьвятыняю? Падабенства, хай сабе дакладнае, і арыгінал розьняцца, як цела і Душа. Але толькі Душа мае жыццё вечнае... Таму пошук сапраўднага Крыжа ёсьць перадумоваю вяртаньня нам часьціны нашае беларускае Душы.

Наша Ніва [18] 9.08.1999

мова гісторыі

# КРЫЖАК

Генадзь САГАНОВІЧ

Пазнаем і разумеем гісторыю мы праз словы, і ад дакладнасьці назваў залежыць адэкватнасьць нашых ведаў. Нездарма гістарычная тэрміналёгія ў кожнага народу пад асаблівай увагай. Парадкаваць яе некалі давядзецца і беларусам. Акурат пра гэта гаварылася ў самым першым нумары адроджанай «Нашай Нівы». Тады прыводзіліся канкрэтныя прыклады і прапаноўваліся крытэры адбіраньня адпаведных назваў. Сёньня ў працяг тэмы — пра «крыжакоў».

Слова «крыжак» цяпер у нас спрэс выкарыстоўваецца як у навуковай (за рэдкім выняткам), так і ў мастацкай літаратуры. Пры гэтым «крыжакамі» называюць усіх, хто калі належаў да рыцарскіх ордэнаў. Што ў Палестыне, што пад Рыгай, што ў Прусіі — паўсюль «крыжакі». Аднак гэта чыста польскі гістарычны тэрмін з канкрэтным гістарычным зьместам. У польскай традыцыі «krzyżak» — той, хто належыць да рыцарскага ордэну Сьвятой Дзевы Марыі, які асеў у XIII ст. на Віслe і быў вядомы як Тэўтонскі, Нямецкі, або яшчэ, ад тэрыторыі, — Прускі. Яго рыцары насілі белыя плашчы з чорным крыжам, адсюль і назва. Падкрэсьлю, Крыжацкі ордэн — гэта польская ўласная назва згаданага ордэну. Рыцараў з ордэну Мечаносцаў, што аселі на Дзьвіне, або, прыкладам, Тампліераў, ніхто ніколі «крыжакамі» не называў. Пры гэтым для палякаў слова «крыжак» з часоў Длугаша мела выразна антынямецкую афарбоўку, што вынікала зь іх векавой варажнечы.

Вось жа ў нас традыцыя была крыху іншай. Само слова «крыжак» не ўжывалася. У летапісах ордэн называлі «Нямецкай зямлёй», «Немцамі», «Прускай зямлёй», а рыцараў — «немцамі», «немчынамі». І ў актавых матэрыялах «крыжакоў» не спатыкаем. Гэтае слова стала фіксавацца ў нашай лексыцы толькі з XVII ст., акурат з пачаткам палянізацыі, але да XX ст. сустракалася выключна рэдка.

Без адмысловага досьледу цяжка сказаць, калі ж «крыжакі» трывала прапісаліся ў нашай мове. Ні Доўнар-Запольскі, ні Станкевіч, ні Захарка, ні Найдзюк, ні многія іншыя аўтарытэты словам гэтым яшчэ не карысталіся. Яно ўвайшло ў шырокі ўжытак пасьля апошняй вайны. Прынамсі ў БелСЭ і шасьцітамовым тлумачальным слоўніку беларускай мовы «крыжак» ужо атаясамляецца з «крыжаносцам» (удзельнікам крыжовай вайны). Выглядае, што гэты палянізм трапіў у нашыя слоўнікі ў гады найбольшай русіфікацыі краю.

Запазычаньне само па сабе — зьява нармальная. Аднак у гэтым выпадку мы займелі безаглядную кальку, гістарычны сэнс якой сфальшаваны. Уласнае найменьне канкрэтнага ордэну ператварылі ў назву агульную і перанесьлі на ўдзельнікаў крыжовых выправаў увогуле. Ясна, што падобная непавага да гістарычнай тэрміналёгіі можа заблытаць кожнага, хто шукае праўдзівых сьлядоў мінуўшчыны. ■

рэцэнзіі

# Беларусы як частка чагосьці

**Белорусы**. — Масква: «Наука», 1998. — (Сэрыя «Народы и культуры»). — 503 с. — Наклад 1980 ас.




Па структуры кніга належыць да «брацкіх магілаў» (акадэмічныя навукоўцы так называюць калектыўныя манаграфіі, разьдзелы якіх напісаныя рознымі аўтарамі). Адсюль — стракатасьць падыходаў. Увесь калектыў аўтараў — беларускія дасьледчыкі з Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру, а роля Расеі — замова, грошы, агульнае рэдагаваньне і ўводзіны, а таксама сам друк. Як жа чытач «уводзіцца» ў працу? Чытаем: «У літаратуры выказаныя розныя меркаваньні пра беларусаў. Адны лічаць іх групай рускага народа, другія — часткай польскага, трэція — асобным славянскім этнасам». Так што існаваньне беларускага народу адразу пастаўлена пад сумненьне.

Тут жа, праўда, зазначана: «Фактычны матэрыял сьведчыць пра тое, што беларусы зьяўляюцца ўсходнеславянскім народам, роднасным рускаму па паходжаньні і вельмі блізкім яму па культуры і назьве». Але матэрыял гэты такі багаты, што «роднасьць» можна паказаць і з польскім, і зь літоўскім, і з украінскім народам.

У кнізе напісана амаль пра ўсё. Пра тое, чаго ня варта шукаць, папярэдзілі: пра шляхту, духавенства, купецтва, пра грамадзкія аб'яднаньні беларусаў ды пра палітычную гісторыю. Затое асьветлена шмат тэмаў, якія раней мала краналіся. Гэта пытаньні дэмаграфіі, расьсяленьня беларусаў у суседніх і далёкіх краінах, сучасныя этнамоўныя працэсы, народныя веды пра сьвет і прыроду.

Сутнаснай у этнаграфіі беларусаў ёсьць праблема іх паходжаньня. Аўтары «Беларусаў» выра[ш]ылі пачаць гісторыю свайго народу ад летапісных славянскіх плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. Што было раней — утоена. Верагодна таму, што Беларусь была заселена балтамі, а тэорыя балцкага субстрату тут не ў пашане.

Выглядае, што славяне зьявіліся ў Беларусі ніадкуль. Затое тлумачыцца, як зьявіліся беларусы ў Расеі: праз палон, высылкі, рэпрэсіі, дэпартацыі. Для Сібіры гэта слушна, а для Смаленшчыны? Абыякавасьць аўтараў паставіла яе на адзін узровень з Паволжам і Аўстраліяй: маўляў, беларусы па-за БССР і РБ — прыхадні.

У выкладзе этнічнай гісторыі беларусаў шмат недарэчнасьцяў. Быццам тэрмін «Чорная Русь» зьявіўся ў XIV ст. — раней, чым назва «Белая Русь» (XIII ст.), быццам пад ціскам мангола-татараў заходнія землі Русі ў XIII ст. увайшлі у ВКЛ (вось хто аказаўся сапраўдным творцам ВКЛ!). Забарона беларускай мовы ў канцылярыях на адной старонцы праз два радкі датуецца 1695 і 1696 г. Увогуле, зьвесткі пра забарону і адмену беларускай мовы сьведчаць, што аўтары ня ведаюць праблемы.

«Сьвядомая беларуская дэмакратычная інтэлігенцыя аб'ядналася вакол выданьня «Мужыцкая праўда» К.Каліноўскага» — неблагі пасаж, калі б вялося пра ленінцаў і «Искру». У вялікім матэрыяле па этнічнай гісторыі толькі паўстаронкі адведзена для Заходняй Беларусі (?!).

У разьдзеле пра народныя напоі вышэй за квас (па градусах) аўтары не рызыкнулі ўзьняцца. То беларусы — нацыя цьвярозьнікаў? З абзацу пра народныя анэкдоты вынікае, што яны бываюць пра фашыстаў і яшчэ пра нешта... Гэта і ёсьць анэкдот.

Што бянтэжыць, дык гэта часам нястрыманае ўхваленьне СССР: станоўча падзейнічалі на сям'ю савецкія дэкрэты, станоўчую працу праводзіла русіфікатарскае таварыства «Прэч непісьменнасьць» і г.д. І побач — пра савецкія рэпрэсіі, дэпартацыі. Сапраўды задумаесься, што дала беларусам савецкая ўлада? Канчатковага адказу аўтары «Беларусаў» не даюць, што цешыць, а знаёмства з багатым матэрыялам кнігі дазволіць чытачу займець свой погляд.

**Валеры Пазьнякоў**

эпізоды

# Манаскі бунт

Зьміцер ДЗЯДЗЕНКА

Гісторыя Воршы дае не адзін прыклад таго, як зацята адстойвалі аршанцы сваю незалежнасьць ад уладаў: і сваіх, і прышлых. Так было напрыканцы XIV ст., калі аршанцы змагаліся супраць аб'яднаўчых захадаў вялікага князя Вітаўта. Тады й зьнік род удзельных аршанскіх князёў, і нават летапісы не называюць іх, у адрозненьне ад суседніх князёў Друцкіх, якія добраахвотна паддаліся вялікакняскай уладзе і падоўжылі свой род. Так было і на пачатку XVI ст., у час вядомай Аршанскай бітвы. І на пачатку XVII ст., калі мяшчане дамагліся Магдэбурскага права. Гэтак было напрыканцы XVIII ст., калі аршанскія канфэдэраты збройна змагаліся супраць падзелаў Рэчы Паспалітай. Падзея, пра якую пойдзе гаворка сёньня, так званы «куцеінскі бунт», таксама сьведчыць пра неадольную прагу аршанцаў да адстойваньня сваіх правоў. Аднак гэты бунт выразна вылучаўся спаміж усіх падзеяў такога кшталту. Адметнасьць у тым, што дзейнымі асобамі былі манахі праваслаўнага Куцеінскага манастыра (што тады стаяў каля Воршы, а цяпер знаходзіцца ў межах горада).

Пабудаваны на пачатку XVII ст., манастыр амаль адразу стаў стаўрапігіяльным (г.зн. кіраваўся беспасярэдне праз Канстанцінопальскі патрыяршы прастол). Беларускія царкоўныя ўлады ня мелі права ўплываць на ягоную дзейнасьць. Архімандрыт Куцеінскай лаўры быў галоўным начальнікам і кіраўніком усіх беларускіх манастыроў, як паведамляе І.Грыгаровіч у сваёй працы «Беларуская ярархія». Толькі ў 1686 годзе гэтая архімандрыя стала залежаць ад Кіеўскага мітрапаліта, але па-ранейшаму не падпарадкоўвалася мясцовым царкоўным уладам.

Такое становішча не задавальняла Магілёўскую япіскапію, якая намагалася аб'яднаць пад сваім вяршам усе праваслаўныя асяродкі Ўсходняй Беларусі (магілёўскі япіскап насіў тытул «Беларускага»). І таму магілёўскі япіскап Сыльвэстар (усьвеце — князь Сьвятаполк-Чацьвярцінскі) на пачатку XVIII ст. пачаў рабіць захады, каб падначаліць сабе «замежныя» манастыры Кіеўскай япархіі ў межах Беларускай (Магілёўскай) япіскапіі. Сярод іх былі абодва Куцеінскія — мужчынскі ды жаночы. Спроба гэтая не прынесла посьпеху, бо настаяцелі згаданых манастыроў на чале зь ігуменам Ёвам зьвярнуліся 11 студзеня 1710 году із скаргай на незаконныя дзеяньні япіскапа да расейскага імпэратара Пятра І. Уплыў расейскіх сьвецкіх уладаў на царкоўныя (і ня толькі ў сваёй дзяржаве) справы, ужо тады быў нагэтулькі моцным, што імпэратарскі загад аб аднаўленьні ранейшага становішча быў выкананы.

Аднак няўрымсьлівы Сыльвэстар ня мог супакоіцца: думка аб існаваньні на тэрыторыі «ягонай» япархіі не падлеглых яму манастыроў літаральна атручвала ўсё жыцьцё гэтаму чалавеку. Толькі, навучаны горкім досьведам, другі раз за падначаленьне манастыроў ён бярэцца больш абачліва.

Перадусім магілёўскі япіскап шукае сабе хаўрусьнікаў. Выпадак (ці лёс) падараваў яму надзейнае апірышча ў асобе графа Ігната Рудакоўскага, прызначанага ў Магілёў ад расейскага ўраду спэцыяльным камісарам для абароны праваслаўнага насельніцтва. У графа, верагодна, было вельмі своеасаблівае ўяўленьне пра абарону праваслаўных, калі ён пагадзіўся дапамагаць Сыльвэстру ў такой «далікатнай» справе...

Першым аб'ектам, на які хаўрус накіраваў свае высілкі, былі Куцеінскія манастыры. Мабыць, немалаважную ролю ў гэтым выбары адыграла завадатарства аршанскіх манахаў у супраціве пад час мінулай спробы падпарадкаваньня манастыроў. 28 сакавіка 1723 году Сыльвэстар прыехаў у Куцеінскі мужчынскі манастыр, дэкляраваўшы сваёй мэтай агляд царкоўных скарбаў і духоўнага парадку. Зь ім разам прыбыў граф Рудакоўскі, які пасьпяшаўся абвясьціць, што едзе як прадстаўнік расейскага ўраду для разгляду крыўдаў, учыненых манастыру.

Але сапраўдныя мэты «рэвізіі» былі навідавоку. І дэклярацыі хаўрусьнікаў не ўвялі ў зман аршанскіх манахаў: яны далі годны адпор суправаджэньню япіскапа. Калі ж сам Сыльвэстар зьявіўся ў манастыр і загадаў узяць пад варту манахаў як буянаў і бунтаўнікоў, ігумен Міхаіл Кобрынец загадаў «біць на гвалт», а сам конна памчаўся ў Воршу. Узьняўшы за сабой, паводле паведамленьня графа Рудакоўскага, «мноства шляхты і многія тысячы паспольства», ён прывёў іх да манастыру і захапіў у палон абодвух саноўных хаўрусьнікаў зь іхным атачэньнем. І япіскапа, і камісара ўсю ноч пратрымалі «пад шаблямі», са словаў расейца, «аднагалосна крычаўшы: забі, забі, расьсякай маскаля і папа-схізматыка».

Пратрымаўшы некалькі дзён, палонных выпусьцілі. Але для магілёўскага япіскапа гэтыя падзеі не сталі папярэджаньнем: ён накіраваўся ў Полацак, каб прывесьці тамтэйшыя стаўрапігіяльныя манастыры пад сваё вяршэнства. Аднак і там яго спасьцігла няўдача...

Абураны «непаслушэнствам» манахаў, хаўрусьнікі пачалі скардзіцца: лісты былі накіраваныя ў Сьвяшчэнны Сынод (утвораны ў 1721 годзе) і кіеўскаму архіяпіскапу Варламу Ванатовічу. Разумеючы хісткасьць сваіх пазыцыяў, скаржнікі абвінавацілі манахаў у спробе перайсці ва ўніяцтва. А падбухторваў іх на гэта, маўляў, аршанскі харужы Стэткевіч, карыстаючыся сваім калятарствам* (род Стэткевічаў, які зафундаваў стварэньне манастыра, на той час перайшоў у каталіцтва, але, як бачым, працягваў апекавацца сваім «дзіцём»).

Не задаволіўшыся гэтым, Сыльвэстар наклаў забарону на адпраўленьне духовых службаў манахамі Куцеінскага манастыру.

Тымчасам ад найвышэйшых царкоўных уладаў адказы на скаргі не прыходзілі: яны чакалі большых падрабязнасьцяў. І тады магілёўскі япіскап пачаў дзейнічаць самастойна, на сваю рызыку. 19 ліпеня 1724 году ён адлучыў ад царквы сем манахаў Куцеінскага мужчынскага манастыра (сярод іх — ігумена Кобрынца), а таксама ігуменьню Куцеінскага жаночага манастыра Кацярыну Лапіцкую і абвясьціў ім анафэму. Між прычынаў адлучэньня, апрача бунту, называлася й тая акалічнасьць, што куцеінскія манахі, не зважаючы на япіскапскую забарону, «важыліся адпраўляць царкоўныя набажэнствы і сьвятыя цырымоніі, слухаць споведзі, прыводзячы людзкія душы да адной з сабой згубы». Абвінавачаньні манахаў у асабістых заганах падаюцца ў напышлівым і патэтычным тоне: «ня варты хрысьціянскага манаскага найменьня», «напоўнены духам пякельнага Ахеронту», «падобны да яхідны».

Адлучальныя граматы былі расасланыя па ўсёй Магілёўскай япархіі, і ў хуткім часе япіскапія нагадвала нямецкае княства часоў Лютэра: на дзьвярах кожнае царквы было прыбіта япіскапскае адлучэньне куцеінскім манахам.

Зганьбаваныя манахі не зьбіраліся скарацца: яны зьвярнуліся із скаргай на неправамоцныя дзеяньні Сыльвэстра да кіеўскага мітрапаліта, і той 10 лістапада 1724 году сваёй уладай адмяніў прысуд магілёўскага япіскапа. Горшай за ўсё для Сыльвэстра была рэакцыя Сьвяшчэннага Сыноду, які пагадзіўся з кіеўскім архіяпіскапам. Пазбаўлены ўсялякай падтрымкі, магілёўскі япіскап мусіў здацца й нават апраўдвацца ў чысьціні сваіх намераў.

Аршанцы абаранілі манастыр. Праўда, у другой палове стагодзьдзя, пры Георгіі Каніскім, стаўрапігіяльныя манастыры адышлі-такі да Магілёўскай (Беларускай) япіскапіі. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. ■

*Калятар — фундатар манастыру ці ягоны нашчадак.*



КУЦЕІНСКІ МУЖЧЫНСКІ МАНАСТЫР. Акварэль XIX ст.

# ЗАЦЬМЕНЬНЕ СОНЦА

***Надзвычай прыгожая прыродная зьява, а пачвараў нараджае сон розуму***

Натальля БАБІНА

І смешна, і прыкра робіцца, калі чытаеш усё тое, што пішуць у беларускіх газэтах розныя астролягі, прадказальнікі і вешчуны пра сонечнае зацьменьне, якое мае адбыцца сёлета 11 жніўня: і катаклізмы прыродныя яно выклікае, і лёсы людзей зьмяняе, і служыць прычынай розных непрыемнасьцяў, і, ня больш ня менш, зьяўляецца прыкметай блізкага канца сьвету... І ўсё гэта на поўным сур'ёзе, нібыта справа адбываецца не пры канцы другога тысячагодзьдзя ад Раства Хрыстова ў краіне з абавязковай сярэдняй адукацыяй, а дзе-небудзь у старажытным Эгіпце, дзе сонечныя зацьменьні выклікалі забабонны страх ды паніку. І хоць узровень ведаў сучаснага чалавека, у прынцыпе, павінен перавышаць узровень ведаў старажытных эгіпцян, пачытаўшыся пра гэтыя жахі, міжволі пачынаеш сумнявацца, ці так гэта напраўдзе?


Прыблізна такую карціну змогуць пабачыць жыхары Беларусі, калі ім пашанцуе з надвор'ем.

Са школьнага курсу астраноміі вядома, што сонечнае зацьменьне адбываецца тады, калі Месяц аказваецца дакладна на простай лініі, якая злучае Сонца і Зямлю, цень Месяцу падае на Зямлю — вось і ўся «фата маргана». У гэты раз цень Месяцу ўпадзе на Зямлю недзе ў Паўночнай Атлянтыцы і зь вялікай хуткасьцю, акрэсьліваючы дугу шырынёй каля 150 кілёмэтраў, пабяжыць на ўсход. Прыкладна ў 13 гадзін 15 хвілін беларускага часу ён ляжа на тэрыторыю Англіі ў раёне Плімуту, за 10—12 хвілінаў сьлізьне над Францыяй у накірунку Гаўру—Руану—Страсбургу, зачэпіць Бэльгію, Люксэмбург, Нямеччыну (Мюнхен), Аўстрыю, пройдзе над Румыніяй і Баўгарыяй, недзе ў 14 гадзін 15 хвілін апынецца ў Чорным моры, прабяжыць яго за дзесяць хвілін і ўступіць на тэрыторыю Турцыі, пройдзе праз Ірак, Пакістан, Індыю і недзе над Бэнгальскай затокай пакіне Зямлю — да 21 ліпеня 2001 году, калі зноў упадзе на нашу плянэту, і адбудзецца чарговае зацьменьне.

Поўнае сонечнае зацьменьне — відовішча сапраўды прыгожае: сярод белага дня раптам хутка цямнее, на небе зьяўляюцца зоры, сонца выглядае як цёмны дыск, абкружаны каронай жамчужнага колеру — гэта сонечная плязма, газавая абалонка нашага сьвяціла (прычым добра відаць, што струмяні плязмы больш доўгія ў экватарыяльным накірунку і больш кароткія ля полюсоў, таму што зараджаныя часьцінкі збольшага рухаюцца ўздоўж ліній магнітнага поля), заравам зьзяюць далягляды — гэта сьвецяцца атмасфэра Зямлі там, дзе няма поўнага сонечнага зацьменьня. Словам, відовішча ўражвае. Асаблівасьць сёлетняга зацьменьня ў тым, што яго паласа пройдзе праз густанаселеныя раёны Эўропы, папулярныя курорты Баўгарыі і Турцыі. Чакаецца, што туды зьедзецца пара мільёнаў людзей з розных кантынэнтаў, каб на свае вочы палюбавацца цікавай зьявай. Калі надвор'е не падвядзе, то гэтае зацьменьне стане самым назіраным за ўсю гісторыю. Мяркуючы па ўсім, сярод назіральнікаў будзе і шмат беларусаў: зараз ні на самалёты, ні на цягнікі ў Баўгарыю ў Менску квіткоў не купіць, а шматлікія турыстычныя фірмы актыўна фармуюць і адсылаюць аўтобусныя групы... Але, па словах турагентаў, былі й выпадкі, калі людзі адмаўляліся ехаць на адпачынак, бо... баяліся зацьменьня!


Так выглядае поўнае сонечнае зацьменьне.

Над тэрыторыяй нашай краіны, на жаль, поўнага зацьменьня не адбудзецца. Каля 14 гадзін 11 жніўня на працягу некалькіх хвілін мы зможам назіраць частковае зацьменьне: у паўднёвых раёнах Берасьцейшчыны сонечны дыск будзе перакрыты на 85 працэнтаў, на Гомельшчыне і ў Менску цёмная частка будзе складаць каля 77 працэнтаў сонечнага дыску, а на поўначы краіны — толькі каля 70 працэнтаў. Гэта азначае, што ні цемры, як пры поўным зацьменьні, ні скажоных ценяў, характэрных для больш моцных зацьменьняў (ад 90 працэнтаў), назіраць ня будзе. Расьліны ня будуць складаць лісты, а жывёлы ня будуць непакоіцца. Тым ня менш, паназіраць за тым, як зьмяншаецца, а тады зноў расьце сонечны дыск, вельмі цікава, асабліва дзецям. Трэба толькі памятаць, што ні ў якім выпадку нельга глядзець на Сонца, не абараніўшы вачэй, бо гэта можа прывесьці да незваротных парушэньняў сятчаткі. Можна глядзець на Сонца праз добра закуранае шкло, засьвечаную фотаплёнку, зварачны фільтар ці, у крайнім выпадку, праз вельмі цёмныя сонечныя акуляры. Фотааматары стараюцца сфатаграфаваць розныя фазы зацьменьня або зьняць працэс на відэа. Зрабіць гэта даволі складана, агульныя правілы такія — аб'ектыў павінен быць доўгафокусным (каб Сонца не атрымалася на здымку занадта маленькім), здымаць трэба са штатыву фотаапаратам з ручной настройкай («мыльніца» не падыдзе) і з шэрымі сьветлафільтрамі. Напрыклад, для сьветлафільтру з 5-кратным аслабленьнем і стужкі ISO 100 устанаўліваюць дыяфрагму 16 і вытрымку 1/60. Відэакамэру лепей узброіць спэцыяльнай насадкай, якая павялічыць фокус, бо інакш сонца на экране тэлевізару будзе занадта маленькім (4—5 см пры дыяганалі 51 см). Можна папярэдне патрэніравацца, здымаючы поўны Месяц.

Частковыя сонечныя зацьменьні адбываюцца на Зямлі амаль кожны год, толькі праходзяць незаўважанымі, а вось поўныя — досыць рэдка. У Беларусі поўнае сонечнае зацьменьне адбудзецца толькі ў 2126 годзе. Так што наўрад ці калі яшчэ на нашым веку будзе такая зручная магчымасьць пабачыць гэтую цікавую прыродную зьяву. Ёсьць сэнс задумацца: мо, варта на 11 жніўня «махнуць» у Мюнхен або Варну ці хацяб у Ялту, дзе Сонца будзе закрыта на 94 працэнты? ■


Калі надвор'е не падвядзе, то гэтае зацьменьне стане самым назіраным за ўсю гісторыю.

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Беларуская літаратура:** 11—20 ст. Дапаможнік для школак, ліцэяў, гімназіяў, ВНУ/ А. Бельскі, У.Кароткі, П.Навуменка ды інш. — Менск: ТАА «Аверсэв», 1999. — 415 с. — Наклад 11000 ас. ISBN 985-6389-40-2

Гаробчанка **Т. Зінаіда Канапелька: Нарыс жыцьця й творчасьці** / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру імя К.Крапівы. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 144 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0176-X

*У кнізе ідзецца пра выбітную акторку Беларускага акадэмічнага тэатру імя Я.Коласа Зінаіду Канапельку (1918 — 1997).*

**Гуманітарныя й сацыяльныя навукі на зыходзе 20 ст.**/ Укл. В. Шчэрбін ды інш. — Менск: Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, 1998. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6318-37-8

Звозкаў Б., Лабановіч Е. **Грамадзянін і сьледзтва: прававыя й псыхалягічныя аспэкты.** — Менск: Выканаўчае бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі, 1999. — 72 с. — Наклад 299 ас.

Каліноўскі К. **За нашую вольнасьць:** Творы, дакумэнты / Уклад., прадм., пасьлясл. і камэнт. Г.Кісялёва. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 464 с., (2) арк. іл. — (Сэрыя 2. Гістарычна-літаратурныя помнікі). — Наклад 5500 ас. ISBN 985-6318-41-6

*«Народ маскоўскі скаланецца ад нашае векавое крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае й адказнасьць перад нашчадкамі за нашую жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасьці царызм.» Канстанцін Каліноўскі, газэта «Chorągiew swobody». «Мужыцкая праўда» ў гэтай кнізе з «Залатой сэрыі» зьмяшчаецца бяз цэнзарскіх выпраўленьяў, што рабіліся за савецкім часам. Кніга каштуе блізу 500 тысячаў.*

Кудравец А. **Позьнія яблыкі:** Раман, аповесьць, апавяданьні. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 494 с. — (Беларуская проза 20 ст.). — Наклад 3000 ас. ISBN 985-02-0171-1

*Кнігу выбраных твораў Анатоля Кудраўца складаюць раман «Сачыненьне на вольную тэму», аповед «Радаўніца» й апавяданьні «Холад на пачатку вясны», «Сяструха», «Жулік», «Сьмерць нацыяналіста» ды іншыя. За раман аўтар атрымаў у 1986 г. прэмію Коласа. Апавяданьні «пашыраюць галерэю нацыянальных характараў, дасьледаваных аўтарам у драматычных, часам трагічных, акалічнасьцях нашага жыцьця».*

**Птушкі п'юць журавіны:** Эсэ/ С.Лобач. **Хвалі гамоняць пра легенды:** Эсэ/ В. Лапцік. Для сярэдняга й старэйшага школьнага веку/ Мастак Г.Мележ. — Менск: Юнацтва, 1999. — 142 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-05-0149-9

Пушкін А. **Выбраныя творы:** Вершы, паэмы: Пер. з расейскае/ Рэдкалегія: Г.Марчук (галоўны рэдактар) ды інш. Уклад. М.Мятліцкі. Прадмова Я.Сіпакова. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 430 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-02-0404-4

*Творы ў перакладзе клясыкаў беларускае літаратуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова й сучасных беларускіх паэтаў. Кніга аздобленая графічнымі малюнкамі ў спалучэньні з рэчамі мінулага стагодзьдзя. Цана блізу 900 тысячаў.*

**Рыгор Сітніца = Ryhor Sitnica: Альбом.** — Менск: Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва, 1998.

Саверчанка І. **Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі:** Адраджэньне й ранняе барока. — Менск: Тэхналёгія, 1998. — 319 с. (64 с. укл.) — Наклад 2000 ас. ISBN 985-6234-07-7

*Манаграфія прысьвечаная кніжна-пісьмовай культуры Беларусі. Асьвятляюцца сацыяльныя дактрыны беларускіх пісьменьнікаў і філёзафаў 16 — сяр. 17 ст., літаратурная палеміка вакол Люблінскай і Берасьцейскай уніяў, адлюстроўваюцца праблемы беларускае філязофіі й тэалёгіі таго часу. Высокі паліграфічны ровень: глянцавая папера, каляровыя ілюстрацыі, супэрвокладка. Цана 500 з гакам тысячаў.*

**Супольнасьць: Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацыяў.** № 4 (12). — Менск. — 23 с. — Наклад 299 ас.

**Сядзібны партрэт Беларусі 17 — першае пал. 19 ст.:** З збораў Нацыянальнага мастацкага музэю Рэспублікі Беларусь: Каталёг / Уступны артыкул і склад. Т.Карповіч. Пад рэд. І.Паньшынай. Фота: Г.Ліхтаровіч. — Менск: ПАНГРАФ, 1996. — 16 с.: іл. — Наклад 1000 ас.

*У добра аздобленым альбоме-каталёгу зьмешчаныя 20 рэпрадукцыяў з сталай экспазыцыі менскага музэю «Дом Ваньковіча. Мастацтва і культура першае паловы 19 ст.». Гэта працяг працы дасьледніцы беларускага партрэту Т. Карповіч. Першай ейнай публікацыяй было ўвядзеньне ў навуковы ўжытак 40 партрэтаў з збору НММБ — кніга «Другія народзіны партрэтаў зь Нясьвіжу й Гарадні» (Менск, 1981). У новай кнізе 18 рэпрадукцыяў упершыню паўстаюць перад гледачом, яны трапілі ў мастацкі музэй па другой сусьветнай вайне ў кепскім стане. Уяўленьне пра іхны выгляд да рэстаўрацыі дае партрэт Мар'яны Хмары (кат. №5). Партрэт Алены Вольскай (кат. №17) зьмешчаны ў працэсе рэстаўрацыі. Альбом выдадзены яшчэ з дапамогаю Беларускага фонду Сораса.*

Чарняўскі М. **Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Караль Хадкевіч.** — Менск: Тэхналёгія, 1999. — 61 с., (9) арк. іл.; партрэт. — (Нашыя славутыя землякі). — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6234-17-4

*Кніга пра слаўны й драматычны жыцьцёвы шлях Яна Караля Хадкевіча (1560—1621), аднаго з найвыдатнейшых палкаводцаў, народжаных на беларускай зямлі. Чэзрць стагодзьдзя шабляю жаўнера ён слугаваў Бацькаўшчыне. Нават апошні дзень ягонага зямнога жыцьця прайшоў пад гарматную канананаду.*

**Доклад о ситуации с правами человека в Республике Беларусь за первое полугодие 1999 г.** — Менск: Беларускі Хельсінскі камітэт, 1999. — 52 с. — Наклад 299 ас.

Кнігі чытаў Віктар Мухін

# СЬВЯТЛАНА ГАРБУНОВА




# ПОМНІК БУДНАМУ

сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя

Усё, што мы ведаем пра аблічча Сымона Буднага — гэта гратэскавая гравюра пачатку 17 ст., дзе ён, карыкатурны, патанае ў смале пекла сярод іншых ерэтыкоў... Гэта значыць, што мы ведаем, у пэўным сэнсе, «адваротны» вобраз слаўнага асьветніка. Прынамсі, так было. Бо ўжо сёньня мы будзем уяўляць яго так, як яго ўявіла сабе наша сучасьніца, скульптарка Сьвятлана Гарбунова.

Гледзячы на яе скульптуру Буднага, што ўстаноўленая ў Нясьвіжы, я думаю пра тое, што вобразы мужчын, якія ствараюць жанчыны — гэта іх ідэалы. Ідэалы бацькі, мужа, сына. «Будны» работы Габуновай — гэта ідэал мудрага настаўніка, абаяльнага і фізычна моцнага, здольнага ўсё зрабіць уласнымі рукамі мужчыны. Несувымерна вялікія рукі падкрэсьліваюць тую стыхію, сярод якое беларускасьць пачуваецца ўпэўнена. Гэта рукі аратага і стыхія ральлі. Як у Каліноўскага: «Сейце, дзяцюкі, поўнаю жменяй!»

Настаўнікамі Гарбуновай былі ледзь ня ўсе клясыкі беларускай савецкай скульптуры: Бембель, Анікейчык, Мурамцаў. Адпаведна фармаваўся й погляд на тое, як мусіць выглядаць сапраўдны мужчына: мудры, спраўны, моцны. Яны ж прышчапілі сваёй улюбёнай вучаніцы тыя рысы, што спатрэбіліся ёй у далейшым: уважлівасьць да чалавека, а таксама мікелянджэляўскае, старое, але ні кім не адмененае правіла скульптуры — прыбраць лішняе.

Помнік Буднаму стаў узорным, у сэнсе павагі да гістарычнага асяродку й прадбачлівасьці ў дачыненьні да асяродку натуральнага. Бо старасьвецкі фарны касьцёл Божага Цела па-ранейшаму стаіць у Нясьвіжы, а дрэвы, у засені якіх прыпыніўся Будны, растуць...

Кампазыцыя манумэнту надзвычай простая: чалавек паказвае адной рукою на справу свайго жыцьця — кнігу. Другая рука, нібы прысягаючы на нябёсах, заклікае неба ў сьведкі, што справа тая неўміручая. Для яснасьці гэтае думкі надта ж надалося сьвятарскае ўбраньне Буднага. Як і ва ўсіх пратэстантаў, яно аскетычнае, бязь лішніх аксэсуараў. Кампазыцыя й зьмест гэтага твору, зробленага ў 1979 годзе, сталі настолькі вычарпальнымі, што нічога больш вартага за Гарбунову пра вобраз асьветніка ў мастацтве гэтак і не сказаў ніхто. Наадварот, твор Гарбуновай спарадзіў эпігонаў. Усьлед за маладой скульптаркай многія паспрабавалі ўваганаць у ейны кампазыцыйны фармат Гусоўскіх, Скарынаў ды іншых. Але не атрымалася.

Гэты вобраз моцна зьнітаваны з асабістымі перажываньнямі і самой скульптаркі, ён паклаў адбітак на ўсе астатнія яе творы. Нават астэнічны Шагал, які неўзабаве ўзьляціць да нябёсаў у сваёй бронзавай абалонцы, выраблены паводле вобразу й падабенства з Сымонам Будным, арыянскім вандроўным пастырам, які прыпыніўся ў Нясьвіжы, каб уславіць нашую мову, пераканаўшы ў тым Радзівілаў. «Катэхізысам» панашаму...

Сяргей Харэўскі



**Сьвятлана Гарбунова** (1954, Менск) скульптар, пэдагог. Скончыла школу-інтэрнат імя Ахрэмчыка ў 1972 годзе. У 1978 скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладала ў Менскай мастацкай вучэльні імя Глебава.

Віктар ШНІП

# ДОМА

*Ёсьць на Валожыншчыне вёска Пугачы,*
*Дзе рэчышчы сьцяжын*
*не зарасьлі ў лугах,*
*Дзе ў агародчыках красуюць касачы,*
*Буслы на захад сонца косяць па дубах...*

Так было дваццаць гадоў таму. Так і сёньня. У Пугачах на 1 студзеня 1994 году налічвалася 162 дамы і 467 чалавек насельніцтва. Цяпер, відаць, крыху больш, бо панаехала чарнобыльцаў і невядома каго.

***

На ўезьдзе — «Пугачы». Па-беларуску. Калі я хадзіў у школу, было па-расейску. Неяк вечарам, прыхапіўшы з вогнішча вугаль, паправіў «и» на «ы». Але ж першы дождж вярнуў ранейшы надпіс. Крыху пазьней, ня ведаю хто, зьбіў са слупа расейскамоўную шыльду, і вёска некалькі гадоў была бяз назвы.

***

Бацька расказвае, што ля дарогі на Дубравы стаялі помнікі французам, якія зьмерзьлі ў Пугачах у 1812 годзе. Помнікі былі вялікія, каменныя. Адзін наеджджы чалавек, як прыйшлі Саветы, будуючыся, забраў іх на падмурак.

***

Тэлевізар, нягледзячы што да Менску ўсяго 50 кілямэтраў, бярэ толькі тры праграмы. Радыёсетка не працуе. Пытаюся ў суседа: «Ну як, гледзіце кіно?» Аён: «А што там глядзець?..»

***

Лаўлю рыбу. Прыйшоў аднаклясьнік Сашка. Твар чырвоны, як памідор. Запытаўся, дзе працую і ці маю курыць. А затым адклікаў убок: «Хачу з табой пагаварыць адзін на адзін». Размовы не атрымалася — прыбеглі дзеці...

Прыйшлі дахаты, а там мама ўжо ўсё ведае, што да мяне падыходзіў Сашка і што ён хацеў выпіць, а не для таго, каб я яму пачытаў свае вершы.

***

Ідзем па вуліцы. Разьмінаемся з кабетамі. Чую: «Чые гэта?» — Ды Нінін хлопец, што ў Мінску паетам робіць...»

***

Забегла суседка. Распытваецца, колькі што ў Менску каштуе. Аказваецца, што ў вясковай краме ўсё даражэй. Пайшла са словамі: «А калі ўжо гэта ўсё скончыцца...»

***

Паштарка прынесла раёнку — «Працоўную славу». Наклад — 4503 асобнікі. Выходзіць два разы на тыдзень. Акрамя рэдкай рэклямы, усё па-беларуску — пачынаючы з інфармацыі пра надої малака і канчаючы спачуваньнямі. Не абышоўся нумар без прыпеўкі А.Пісарыка:

*Позна, позна, Ваня,*
*Корчыць дурачыну,*
*Спакусіў каханьнем*
*Зеляну дзяўчыну,*
*Сорам паліць сэрца,*
*Дуецца спадніца,*
*Так што давядзецца,*
*Галубок, жаніцца...*

***

Чакаем аўтобус у Менск. Прыпынак ля крамы. Тых, хто сустракае і праводзіць, больш, чым тых, хто едзе. Вясковыя маладзёны час ад часу забягаюць у краму і з пляшкамі чарніла садзяцца на беразе сажалкі. Гляджу на іх і спрабую ўявіць сябе разам зь імі — не атрымоўваецца. Адно, што суцяшае, што гавораць на нашай мове, на якой гаварылі і мае аднагодкі гадоў дваццаць таму. ■

слоўнік паняцьцяў

## 10. ПРА ФАЛЬШЫВУЮ І ФАЛЬШАВАНУЮ СЬВЯДОМАСЬЦЬ.



Шмат небясьпек падсьцерагае сучаснага чалавека ў яго няпростым жыцьці. Усякімі вірусамі, інфэкцыямі, мікробамі-кляшчамі поўніцца прастора. Кожны дзень чалавек дазнаецца пра шмат чаго новага, у тым ліку і пра тое, што вось ужо недзе зусім недалёка вучоныя знайшлі ўзбуджальнікаў сібірскай язвы або выявілі пакуль яшчэ адзінкавыя выпадкі захворваньня на халеру. Пра кішачную палачку апошнім часам амаль ня згадваюць — яна ў нас паўсюль, у дробных і буйных вадаёмах.

Пра гэтыя небясьпекі нам гавораць традыцыя. Суровы дотык да рэаліяў сёньняшняга дня дае ў выніку разуменьне таго, што ў нашых душах завёўся яшчэ адзін вельмі небясьпечны паразыт — назавем яго ў рабочым парадку ***паразытам мазгоў***.

Прысутнасьць гэтага паразыта ў галовах нашых грамадзян адчуваецца на кожным кроку. Дастаткова ўважліва паслухаць, як яны гавораць (о, гэтыя бясконцыя...), як яны разважаюць (асабліва «цешыць» іх паталягічная неперамоўнасьць у розных роду спрэчках і дыспутах), як яны праводзяць свой вольны час. Паразыт гэты ня толькі ёсьць там, дзе ён ёсьць, але і праводзіць сваю разбуральную дзейнасьць. І калі яго не абясшкодзіць у пару, мазгі хворага стаюцца вадкімі, бы сьмятана. Цяпер нішто не перашкаджае яму разьняволена плысьці па акіяне жыцьця.

У адрозьненьне ад паразытаў, якія выклікаюць хваробы цела, паразыт мазгоў перадаецца ў спадчыну. Увогуле, гэта прыроджаная хвароба, якую, зрэшты, можна набыць і ў сталым веку. Па маіх назіраньнях, некаторыя людзі нават вельмі радыя, што ў іхнай мазгаўні асяліўся гэты паразыт, і грозна хмураць бровы, нават калі толькі заікнуцца пра пэўную нездаровасьць, якая прасякае іх знутра.

Хмурыць іх бровы прымушае акурат гэты самы паразыт.

Савецкія ідэолягі спадзяваліся, што расейская каланізацыя зробіць беларусаў расейскамоўнымі. Аднак выйшла не зусім так. Беларусы ў масе сваёй сталі ня толькі і ня столькі расейскамоўнымі, а безьязыкімі і бязмоўнымі. Невядома, наколькі да гэтага спрычыніўся выяўлены кагадзе паразыт, але пэўнае адно: Беларусь даўно ператварылася ў краіну фальшывай і фальшаванай сьвядомасьці.

Пад час каланізацыі традыцыйна фальшуецца як сьвядомасьць звычайных людзей-аўтахтонаў, якіх ажно расьпірае ад самых фантастычных уяўленьняў пра сябе і навакольную рэчаіснасьць, так і спэцыфічныя ўзроўні грамадзкай сьвядомасьці, а менавіта мова, гісторыя, мастацтва, літаратура. Канчатковая мэта гэтых нівэляцыйных захадаў — сьпярша дасягчы *эфэкту агрубленьня*, своеасаблівай заніжанасьці жанру, а пасьля выставіць яе напаказ, зрабіць зразумелай і відавочнай для кожнага. ■

# СУЧАСЬНІКІ-6

Адам ГЛЁБУС

### АНЕМПАДЫСТАЎ І ТРУС

Плякатыст Міхал Анемпадыстаў стварыў адметны тэатральна-музычны праект «Народны альбом». Тутэйшая рок-тусоўка нарэшце сабралася ў нешта цэлае, цікавае й вясёлае. Адзіная песьня, што выпадае з альбому — «Надзенька» ў выкананьні Міколы Труса, які сьціпла не пазначыў свайго прозьвішча на касэце. Як я ўжо сказаў, мне спадабаўся «Народны альбом», але «Надзенька» — найлепшая зь песьняў.

### ЛАПО

Авангардыст Уладзімер Лапо зьехаў у Англію й прапаў. Гадоў пяць — ні слыху ні дыху. І раптам у Менску зьявілася паштоўка, дасланая бісмаркісту Калгіну-Гіпакрату ад невяртанца Лапо. Жанчына Аня, якая бачыла допіс, сказала, што Ўладзімеру жывецца кепска, бо ўся паштовая картка зафарбаваная чорным жаночым лякам для пазногцяў.

### ЗАБАРА

Твароўб (нават вор ад расейскага «лицедей». — *А.Г.*) Ігар Забара запрасіў мяне на свой спэктакаль. Сорамна, бо я не паверыў Ігару, які назваўся Сэржам і абвясьціў, што набыў карціну за 200 000 франкаў. Сумна, але я ня даў веры, што Сэрж-Ігар чытае Луцыя Анэя Сэнэку. Я вельмі люблю карціны, асабліва Казіміра Малевіча «Белы квадрат на белым тле». Крыўдна за людзей, што насьміхаюцца зь белага чыстага палатна. Мне вельмі непрыемна было прачытаць, як нейкі паўвар'ят намаляваў аэразольным балёнікам на белым квадраце Малевіча чырвоны знак даляра. Я люблю кнігі, каб паверыць, што ў руках Ігара-Сэржа быў менавіта Сэнэка, а не расейска-французкі слоўнік. Каб я ня верыў толькі Ігару?.. Але ж ня веру й Манаеву, які кажа, што зьбіраецца ажаніцца... Зрэшты, гэта мае праблемы веры й недаверу. Пры сустрэчы, калі з Забарам ці Манаевым буду піць каву каля ўнівэрсама «Цэнтральны», скажу: «Акторскае выкананьне мне спадабалася. Я суперажываў. Праўда. А п'еса — дрэнь!»

### АХРОМЕНКА

Першы раз гісторыю пра наёмных бандытаў я пачуў ад скульптара Ўладзімера Жбанава. Пэўна, я б забыў інцыдэнт, каб да мяне не завітаў былы сааўтар Ахроменкі Ўладзімер Лысенка. Ён з Чарнігава. Ахроменка жыў у яго. Яны разам пісалі раманы. Аднаго разу Ахроменка атрымаў грошы за раман і забыўся ці не пажадаў аддаваць абгавораную частку ганарару Ўладзімеру. Той сам зьезьдзіў у выдавецтва, але дамовіўся, што будзе працаваць адзін. Ахроменку такія паводзіны «нэгра» не спадабаліся. Ён наняў «бакланаў». Тыя праламалі жалезным прэнтам чэрап Лысенкі. Чалавек месяц праляжаў у рэанімацыі. «Бакланаў» знайшлі й арыштавалі, а вось Ахроменка спакойна разгульвае па менскіх вуліцах. Вось якія літаратары вядуцца ў Беларусі! І яшчэ... Лысенка сказаў, што Ахроменка рыхтаваў забойства свайго літагента Сіўчыкава. Лысенка тады адгаварыў Ахроменку. Цяпер спыняць Ахроменку няма каму.

### ВЯЧОРКА

Мовазнаўца Вінцук Вячорка распачаў перадвыбарчую кампанію напярэдадні зьезду БНФ: інтэрвію, фотаздымкі, прамовы... Выдатны пачатак. Колькі можна жыць у безальтэрнатыўным грамадзтве. Пазьняк сказаў. Лукашэнка загадаў. Пазьняк — Лукашэнка... Лукашэнка — Пазьняк... А тут вам Вячорка сказаў. Толькі што прапануе Вінцук? *У добрым сэнсе абывацельскую Беларусь, у якой кожны знаходзіць сваю нішу.* Ды не хачу я ў нішу. Беларусь і так у глыбокай, цёмнай, глухой нішы. І абывацельская Беларусь ні ў добрым, ні ў якім сэнсе мяне як патрыёта бацькаўшчыны не прывабіць. Трэба зьмяніць праграму, спадар Вячорка. Наша Беларусь мусіць мець прафэсійнае войска, найлепшыя ў сьвеце спэцслужбы, выхаваных паліцыянтаў, добрае машынабудаваньне, тэхналягічныя нафтаперапрацоўчыя заводы, зямлю ў прыватнай маёмасьці, канкурэнтаздольную банкаўскую сыстэму й яшчэ процьму розных прывабных рознасьцяў. А сам Вячорка мусіць мець кансультанта, які будзе выкрэсьліваць з інтэрвію *нішы* і *абывацеляў*. ■



новы беларускі часопіс

# “Anno Albaruthen”

Пасьля раптоўнага рашэньня Ўладзімера Някляева застацца ў Польшчы Адам Глёбус выказаў у «НН» думку, што старшыня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі і вядомы паэт будзе абавязкова выдаваць там літаратурны часопіс. Пасьля гэткі намер раскрыў і сам Някляеў. І вось ужо сёньня мы атрымалі інфармацыю пра новы выдавецкі праект.

Гутарка ідзе пра «пэрыёдык эўрапейскага ўзроўню», які будзе называцца «Anno Albaruthen» («Беларускі Год», напэўна, ці «Год Беларуса»). Бацькам гэтай задумы называюць Сакрата Яновіча, беларускага пісьменьніка, які жыве ў польскіх Крынках і які заснаваў там элітарны асяродак — Вілу Сакрата (Villa Sokrates па-польску). Стваральнікі новага пэрыёдыку, паведамляе «Gazeta Wyborcza», пісьменьнікі і асобы, якія займаюцца беларускай літаратурай, зьбіруцца на першую сустрэчу ў гэтай справе ў сярэдзіне жніўня. Мяркуецца, што паміж іншых там будуць нямецкія перакладчыкі Норбэрт Рандаў і Гайнрых Бэрэска, перакладчыца з Вэнэцыі Тамара Андрушкевіч і згаданы старшыня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Ўладзімер Някляеў. Усяго каля дзесяці чалавек, калі дадаць сюды пісьменьнікаў і публіцыстаў зь Беларусі, а таксама сяброў беластоцкага літаб'яднаньня «Белавежа». Ня выключана, што пад'едзе і Васіль Быкаў зь Фінляндыі.

У «Anno Albaruthen», першы нумар якога зьявіцца ў канцы году, тэксты будуць публікавацца на тых мовах, на якіх пішуць аўтары. Апроч гэтага, будуць рэзюмэ па-ангельску, беларуску ці польску. У першым нумары заплянаваная паэзія Бадлера і Ейтса, а таксама перакладзеная на беларускую мову эўрапейская проза. Тамара Андрушкевіч паабяцала напісаць пра віно ў гісторыі літаратуры. «У гісторыі беларускай літаратуры наш пэрыёдык будзе чымсьці новым, — сказаў Сакрат Яновіч карэспандэнту «Gazety Wyborczej». — Не хаваю, што ён будзе элітарным, адрасаваным ня толькі звычайнаму беларускаму чытачу, але й тым, хто ў Эўропе займаецца беларускай літаратурай. А такіх ужо трохі зьявілася. Часопіс мае на мэце ўвесьці беларускую літаратуру ў яе эўрапейскі дом.»

**Крыт.**

# Сабе любоў

***амаль жаночая аповесьць***

Андрэй ДЫНЬКО

Ганна сядзіць ля сьцяны, побач сякера, яна не выпускае яе з рукі.

«Я зраблю сабе сьмерць, як задумала!» «Зрабіць сабе любоў!» — з гістэрычнай пяшчотай крычыць Ёгана, спрабуючы засунуць ёй у губы алюміневую лыжку зь ёгуртам. Голая лямпа надае ёгурту жаўцізны. Ёгана, якая ніколі не перастае рэфлексаваць, адзначае для сябе ў памяці эпізод з Фасбіндэра.

Ганьне 96, яна жыве ў Заказанцы пад Берасьцем.

«Дачка Ніна ў яе яшчэ маладая, але ўжо нідзе ня робіць. Ніне 73, яна жыве ў горадзе. У Ніны тры браты. Старэйшы за яе на тры гады Іван — у Нямеччыне.»

Ён служыў у дывізіі СС «Галічына» і ажаніўся зь нямчыняй. Сярэдні, Сьцяпан, робіць кавалём у калгасе «Запаветы Дзяржынскага».

«Меншага Ганна нарадзіла ў пяцьдзясят чатыры. Ён жыве ў Рыбінску. Гэта за Масквой, недзе ў Сібіры. Як яна яго раджала, то быў Шчарбакоў, пасьля зноў Рыбінск. Як ён туды паехаў к чорту на кулічкі, то быў Андропаў, а цяпер зноў Рыбінск.»

Ганна мае трох нявестак.

«Нямецкую яна любіць, але мала бачыць, а зваць яе Моніка. Кацапскай ня любіць, бо яе зваць Мінэль на чэсьць Леніна, толькі задам наперад. Сьцяпанаву зваць Элеанорай. Яна працавала на фэрме цялятніцай, але яе зваліі зь мяшком камбікорму і скінулі ў даяркі, а даяркам уставаць на даеньне а чацьвертай. Сьцяпана праводзілі на пэнсію з пачотам: далі ўстаноўку, каб музыка грала, выпісалі цяля й тры яшчыкі гарэлкі. Ён на пэнсію пайшоў і астаўся рабіць у кузьні. У іх чацьвёра дзяцей. Расьціслаў даўно ажэнены, ён вучыцель матэматыкі, а ўлетку памочнік камбайнёра. А Ілону, Інэсу і Інару ніхто не бярэ, хоць ім ужо 26, 24 і 22 гады. Устараюць дзеўкі. Як бацьку праводзілі на пэнсію, Расьціслаў выпіўшы паехаў дахаты па бубен і ўпаў з матацыклем з мосьціка. З тых пор у яго галава ня дзействуе. Да ягонай старшай ужо ў сваты прыходзілі, але як цесьця ня вылечаць, дык сванька вясельле расстроіць. Дачку ягоную зваць Дзіна.»

Ёгане 28, яна Ганьчына праўнучка. Яна жыве ў Людвігсгафэне й піша доктарскую пра славянскі Bildungsroman. Яна інфікавана AIDS. Яна з захапленьнем гаворыць па-беларуску, блытаючыся ў афітных формах скланеньняў і спражэньняў. У яе складаныя стасункі зь дзедам з прычыны ягонага гітлераўскага мінулага, а таксама непазбыта двухсэнсоўнага становішча ў сям'і, куды ён прыйшоў прымаком. Яна абсалютна адмаўляе бабулю, лічачы яе вінаватай у сьмерці бацькі — велагоншчыка з каманды «Bosch», што двойчы займаў трэцяе месца на «Tour de France» (як і ва ўсіх гоншчыкаў той эпохі, у яго ў жылах бегла сумесь гармонаў зь якім бутырабэтаінам — рак крыві): маці змушала яго зь сямі год трэніравацца па сем гадзін у дзень. Маці Ёганы была настолькі выпадкова сустрэтай бацькам сіратой-парміджанкай, што выйшла замуж за жыда праз два месяцы пасьля сьмерці мужа і паехала ў Нью-Ёрк. У бабе Ганьне Ёгана знаходзіла чысты ў сваёй сялянскай мадальнасьці варыянт духу і тыя фундамэнталізм а імунітэт да сучаснасьці, за якія можна схавацца. Ёгана па магчымасьці наяжджала ў Беларусь, з-за свайго неадменнага пэрфэкцыянізму, абгрунтоўваючы гэта сама сабе неабходнасьцю практыкаваньня ў мовах. І — яе ўсходнія захапленьні моцна раздражнялі бабу Моніку, якая вывучыла за жыцьцё адно славянскае слова (па-нямецку назваць гэта сваім імем яна не наважвалася — Education europEenne, — хоць дзеля гэтага самага і ўзяла Йвана: яна працавала мэдсястрой у кабінэце вэнэроляга, куды той прыйшоў на прафагляд).

«Мяне звабіла легендарнасьць ягоных кляйнотаў.»

Ах, гэтыя неасьцярожныя сакрэтнічаньні бабуляў з гідлівымі ўнучкамі з нагоды іх паўналецьця!

Баба Ганна качала ваду ручной помпай на паліваньне садку. Нінка прыйшла з плачам.

«Ой, шо Вы мне нарабілі! Пакатлушылі моркву, я за яе ўзяла б увесну сем мільёнаў!»

Баба Ганна пасекла ўсё, падсеянае між цыбуляй — у бабы катаракта, яна дробна бачыць, але прагне працаваць.

«Ад Вас адзін убытак. Шоб Вы мне больш куды Вас ня просяць ня лезьлі!»

Ганну залівае крыўда, як і кожны раз пры нагадцы пра нядужасьць і поўную бескарыснасьць.

«На табе сем мільёнаў, забяры!»

Нінку, як па мордзе, б'е крытыка яе скваліснасьці.

Назаўтра Нінка прыяжджае з мужам. Ганна плача зноў пра сваю крыўду. Зяць крычыць на яе (у такім веку ўсе тутэйшыя мужчыны — халерыкі).

«Мая Ніна ноч з-за Вас ня спала! За вясну — кукурузу, салату, моркву! А перад суседзямі на нас шо толькі не гаворыце!»

І, здаецца Ганьне, трасе ў яе перад носам кулаком. Ганна загінае яму матам.

«Іці вашу маць, я вам, як служанка, увесну гной растрасаю, а цэлае лета ваду качаю, аж у руку ўлезла.»

«Нам служанкі ня трэба.»

Ужо тыдзень Ганна не адзываецца да Нінкі і аддае сабаку ўсё, што тая ні прывозіць.

Ёгана заяжджае да бабулі па дарозе. Яна ў Беларусі па справе ўтварэньня нямецка-беларускай асацыяцыі хворых на AIDS. Ганна корміць яе, але сама нічога ня есьць.

«Я, старая, нячыстая, толькі апэтыт табе буду перабіваць.» Ёгана пасьля ежы выпівае жменю таблетак.

«Ты шо, хворая?»

«Ну, я маю AIDS.»

«А шо такое AIDS?»

«Гэта такая новая хвароба, правакатар іншых хваробаў.»

«А як шо гэта? Як ліхаманка? Як малакроўе?»

«Як рак, але гэта ёсьць няхуткі і не баліць.»

Бабця ўстае і моцна абдымае праўнучку.

«Я старая, ты маладая. Мне трэба ўмярці, табе трэба жыць. Я вылечу цябе ад раку. Чога ў цябе рак: грудзей, трыбуха, лёгкіх ці па-жэнску?»

«Па-жэнску.»

«Ёсьць два способы: адзін старамодні, другі навамодні. Якім будзеш лячыцца?»

«Навамодні.»

Ганна ідзе па зёлкі, але ў калідорцы млее й падае. Ёгана бяжыць да яе, трасе. Ганна расплюшчвае вочы. Яна сьпяшаецца расказаць пра лячэньне: «Праз кожныя дзьве гадзіны і ўдзень, і ўначы шпрыцуй *туды* адзін раз неэтыляваны бэнзын, адзін раз узвар сямі зёлак — вісяць на трэцім зьверху цьвіку, а адзін — раствор лідазы з дымэксынам. Лідаза — гэта бычае насеньне, а дымэксын — новае лякарства, сьмярдзючае, але памоцнае. Праз тры месяцы прыедзеш да Веры-магеры па масьць. Бо мяне ўжо тады на сьвеце ня будзе. Я сваё аджыла».

«Я хачу цябе жыць вечна!»

Ёгана цалуе Ганну, і на вуснах у яе застаецца сажа з маршчкоў.

«Зь мяне больш няма толку, і я зраблю сабе сьмерць.»

(Ганна вырашыла загубіць сябе потайкі, унікаючы самагубчай ганьбы перад сьветам — замарыць сябе голадам. Яна вось ужо тыдзень нічога ня мела ў роце, але, як належыць, штодня ходзіць у краму па прадукты.)

Ёгана пампуе з баку бэнзын.

«Але калі ты не ясі, я хвігу шо сябе рабіць.»

Ганна дробіць лучыну, але падае ля калодкі. Празь дзьве ночы Ёгане абараняць доктарскую. ■



# ШЭРАЕ ПАЛЕСЬСЕ

***Палесьсе... Здаецца, нават у думках кожны беларус ставіць пасьля гэтага слова шматкроп'е. Гэты край, нібыта бязважкімі туманамі, ахутаны таямніцай. Чырвоны «Ікарус» з напругай загудзеў, адыходзячы з Цэнтральнага аўтавакзалу акурат ля рэдакцыі «Нашай Нівы» на слуцкую дарогу.***

## Салігорск

Пра Салігорск я даведаўся яшчэ ў пачатковай школе з падручніка па прыродазнаўстве. Было неяк цяжка даць веры, што ў БССР ёсьць горы. Салігорск яшчэ ня ўзьнік на гарызонце, а ўдалечыні ўжо грувасьціліся рудаватыя тэрыконы. Шматпавярхоўкі Салігорску ўгрызаюцца ў краявід, нібы каўшы экскаватараў, выграбаючы зь зямлі яе соль. «Прыяжджалі неяк літоўцы, — далятае да нас размова трох мужчын у аўтобусе, — ды казалі: прадайце нам тыя горы. А нашыя ў іх пытаюцца: нашто? Так і не прадалі.»

## Тураў

Нас сустрэў не заснаваны Турам горад, а невялікае, збольшага драўлянае мястэчка, у якім, згодна са стэндамі Тураўскага краязнаўчага музэю, у 1929 годзе быў арганізаваны калгас «Новая жизнь». Пра тое, што новае жыцьцё пачалося ўсур'ёз і надоўга, сьведчыць вывешаны побач Дзяржаўны акт на вечнае карыстаньне зямлёй калгасамі. Мы сутыкнуліся лоб у лоб з жыцьцём на беразе Прыпяці, калі з-за яе павароту выплыў аднайменны паром з коньмі, сенам ды тураўцамі, якія паблажліва пасьміхаліся, гледзячы, як мы пстрыкаем фотаапаратамі. Дзе шукаць сапраўдны Тураў? Хіба на берагох Прыпяці, на яе сьнежна-белых распаленых сонцам пясчаных пляжах, поўных хрусткіх ракавінак. Нават без архітэктурных помнікаў Тураў можа стаць добрым месцам для адпачынку, бо навокал — цудоўная прырода.

## Давыд-Гарадок

У Давыд-Гарадку ёсьць вуліцы Савецкая, Ленінградзкая, Урыцкага і нават *вул. імя К.Цэткіна.* А калі з плошчы, на якой стаіць жаўтаватага колеру помнік правадыру, у выцягнутую руку якога нехта засунуў пук пажоўклых, выдраных з карэньчыкамі зь зямлі кветак, прайсьці па вул. імя А.Пушкіна, мінаючы завулак Маскоўскі, дык перад вамі зьявіцца Давыд-Гарадоцкае замчышча, адкуль адчыняецца від на Гарынь. Здаецца, назва ракі, чыя шэрая плынь нясе ўдалячынь адбіткі шызых ваблокаў, прапітала сумам усё мястэчка. Драўляная Георгіеўская царква, афарбаваная ў ярка-блакітны колер, яшчэ мацней падкрэслівала зморчаную навакольных мясьцінаў. Яе абкружаюць пахіленыя каменныя, жалезныя ды драўляныя крыжы і незьлічоныя старыя магілы. Дзесьці на вул.Філатава мы сустрэлі бабулю, якая сядзела на ўслоне ля плоту. «Падкажыце, ці адчыненая Георгіеўская царква?» — пытаемся ў яе. «Тая? Як каго хаваюць, тады і адчыненая.» Пераначаваўшы ў маленькім драўляным гатэлі зь няўцямнаю назвай «Гатэль г.Д.-Гарадку МПП ЖКХ» ды выгодамі на двары, мы зранку перад ад'ездам завіталі на рынак. Каля трыццаці кабет гандлявалі дужа таннымі мясцовымі абрыкосамі, а мужыкі, яшчэ не зусім п'яныя, нетаропка гаманілі. А вось тутэйшыя цыганы не цырымоніцца, голасна сварацца за месца ў чарзе ў краме ды час ад часу ўстаўляюць у сваю незразумелую гутарку беларускія выразы кшталту «кікі міні розьніца?»

## Пінск

З высокага мосту праз Піну здаецца, што мястэчка плыве па рацэ, пагойдваючы ў такт хвалям званіцай касьцёла францысканцаў, які зараз стаіць у рыштаваньнях, абгорнуты ў зялёную рэстаўрацыйную сетку. Будаўнік расказвае, што касьцёл рэстаўруюць палякі і працы яшчэ гады на два. Дахі ўжо накрылі цёмна-чырвонай бляхай пад дахоўку ды ўціснулі шклопакеты ў адтуліны вокнаў. Старая сапраўдная дахоўка ляжыць акуратненька на заднім двары. Каля гатэлю «Прыпяць» стаіць на бэтонных падпорах «Брыгантына», былы карабель на падводных крылах. У «Брыгантыне» ўтульная кавярня, у якой, праўда, забываюцца паставіць на стол сурвэткі, падаграюць шашлык у мікрахвалёўцы ды вымяраюць кілаграмамі нарэзаныя памідоры. Цікава, што зрабілі б з «Брыгантыны», скажам, немцы. Карабель на падводных крылах, які немцы купілі ў Гомелі, стаў, атрымаўшы назву «ProJet», самым хуткім караблём на Рэйне. Вядома, ягоны салён цалкам перабсталявалі. Не пашкодзіла б трохі паднавіць і пасажырскі цеплаход «Віцебск», які, адыходзячы ад Пінскага рачнога вакзалу, пужае сваёю сырэнай галубоў на высачэзным даху былога калегіюму езуітаў, дзе зараз месьціцца харэаграфічная школа ды Музэй беларускага Палесься. Пісалі, што белы ды чырвоны — афіцыйныя колеры беларускага рачнога флёту. Калі так, дык яны засталіся адно на вёслах спартовых байдарак, якія імкліва праносяцца уніз па Піне. На больш вялікіх судах часьцей сустракаеш чырвоны ды зялёны, якія амаль зьліваюцца ў адзін, ушчэнт пакрытыя карабельнай сажай.

**Аляксандар Кудрыцкі. Фота Анатоля Котава**





*Рака Гарынь пад Гарадком (зьверху), езуіцкі калегіюм у Пінску і паром у Тураве (зьнізу).*

## Маршрут і кошты:

**Падарожнічаць па Беларусі пакуль танна. Квіток да Турава на аўтобус Менск—Давыд-Гарадок (адпраўленьне з Цэнтральнага аўтавакзалу ў 7.20) каштаваў 551 тыс. рублёў. Дабрацца з Турава да Давыд-Гарадку можна на аўтобусе Гомель—Давыд-Гарадок (89 тыс., адпраўленьне прыкладна а 16 гадзіне). Квіток на аўтобус Давыд-Гарадок—Пінск, які адходзіць з Давыд-Гарадку а 9-й раніцы, каштуе 190 тыс. А вяртацца зь Пінску ў Менск лепш за ўсё на так званым «кругасьветным» цягніку N659 Берасьце—Менск. Гэта каштуе ці не ўдвая таньней за аўтобус — 270 тыс. Адыходзіць ён у 1.37 ночы, што дае магчымасьць прагуляцца па начным Пінску. Нумар на двух у Давыд-Гарадку каштуе 290 тыс. на чалавека за ноч, а ў Пінску ў «Прыпяці» — 551 тыс. Найлепшы пінскі гатэль «Прыпяць» выгодна месьціцца ля ракі, што асабліва добра разумееш, стоячы раніцай на бальконе і аглядаючы маляўнічы палескі краявід.** ■

## Наша Ніва 90 гадоў таму

*6 жніўня 1909 году*

### Ці ёсьць на гэта рада?

Апошнімі гадамі, як самі бачыце і ведаеце, шмат зьмянілася ў нас паветра: зімы сталі марозныя; вёсны — позныя і халодныя; леты — мокрыя і таксама халодныя, што ня раз у Пятроўку з касой трэба ісьці ў кажусе; восені раньнія, а тут не агледзісься, як ізноў паваліць сьнег. Ну, але на гэта ўсё нічога не парадзіш; частка віны есьць, праўда, у гэтым нашых багачоў, у каторых былі вялікія абшары лесоў і іх яны цяпер да званьня высеклі, дык і халадней стала; ёсьць шмат і іншых прычын, але рады даць ім мы не здалеем, дык і гаманіць аб іх ня будзем.

Каму, як каму, але нам — хлебаробам — гэткія гады найбольш даюцца ў знакі; дык вось, трэба хоць ратавацца тым, чым толькі можам, што ад нас самых залежыць.

Хіба здаралася вам ня раз так, што як надойдзе рабочы час, то як ночы — пагода, як дзень — дождж, а то: будні дзень — дождж, прыйдзе сьвята — пагода. А ці прыходзіла калі вам у галаву падлічыць, колькі мы ў год гэтых дзён сьвяткуем, дый марнуем? А работа пільная зацягіваецца: сена глуміцца, збожа ў снапох зрасьце, апозьніся з арбой, жыта не ў пару засееў — прапала, бо добра не ўрунее перад замарозкамі; а то, бач, зерне расьсееў, а тут падскочыла колькі дзён сьвята — вось і па рабоце.

Але ня ўсюды хлебаробы так марнуюць час і сваю гаспадарку, як мы, беларусы, і як уся Расея.

Вось, напрыклад, у Нямеччыне і Швэйцарыі на год выпадае ўсяго 60 дзён сьвята; у Англіі — 58; а ў Францыі — толькі 56. Але затое там жа і гаспадарка ідзе складна — не змарнуюць часу. Паглядзім жа, колькі мы бадзяемся без работы. Пералічаць усе гэтыяградавыя, ледавыя, Міколіны бацькі, Купалы і іншыя — шмат трэба было б часу і паперы; досі таго, што агульна лічачы ў Вітэбскай губэрні сьвяткуюць больш як 160 дзён у год, ды мала столькі ж сьвяткуюць у Менскай і Віленскай губ., а калі яшчэ прыкінуць да гэтага, што ня раз пасьля сьвята ў галаве трашчыць і чалавеку не да работы, вось і выпадзе, што як раз пагода наш хлебароб прагуляе, а другое паўгода — галадае. Ня дзіва! Чаму лепей жывуць нашы блізкія суседзі, хлебаробы ў Ковенскай, Курляндзкай і Ліфляндзкай губэр. — бо там ня больш марнуюць на сьвяты, як дзён 70.

Даўней яшчэ была адгаворка, што духоўныя і паліцыя мелі права зганяць у іншыя сьвяты з работы (напрыклад; у табэлі), але цяпер гэткага закону няма, і трэба сабе добра ўбіць у галаву, што колькі сьвятаў прасьпіш, столькі будніх дзён галоднымі зубамі будзеш ляскаць.

*Я...*

## прыватныя абвесткі

Куплю цымбалы б/в. Танна. Тэл.: 275-59-89, Ірына

Лодка маторная «Прагрэс 2М». Прадам альбо памяняю на што другое. Тэл.: 44-703 (Слуцак), Мікалай

Набуду «Лингвистический энциклопедический словарь». Тэл.: (222) 42-51-53, Андрэй

Куплю слоўнікі Станкевіча і Насовіча, беларускую Біблію. Тэл. 2264-263, 2708-987

Шукаю маркі БНР, маркі беларускай эміграцыі, кнігу Ўл. Жылкі сэрыі «БК». Андрэй Новікаў. 211408, Полацак, вул. Невельская, 55-54

Янку Запрудніка з Днём народзінаў віншуе Культурна-асьветніцкі цэнтар Караткевіча. Жыве Вольная Беларусь! КАЦІК, Шэпелеў Генадзь

Гэй, там, налівай! Налівай ды выпівай і танчы, т-т-танчы, танчы! З нагоды дня народзінаў (15.08) Ігара Варашкевіча (гурт «Крама») па рэспубліцы абвяшчаецца выхадны тыдзень і ўсеагульнае п'янства. Любім! Кахаем! Жадаем: будзь разам з намі!

Шаноўны Ўладзік! У сваіх замежных вандроўках не забывай тых, хто цябе шчыра кахае!

## паштовая скрынка

**Вадзіму Б.** зь Сьветлагорску. *Завязка файная, а разьвязкі няма. Апавяданьне абрываецца на сярэдзіне. Дарабіце.*

**Вольце** *Л.* зь Менску. *Раманы жахаў чытаюць, а фільмы жахаў глядзяць, каб пры гэтым больш інтэнсыўна нацешыцца пачуцьцём уласнай бясьпекі, і дзеля браку моцных пачуцьцяў у рэальным жыцьці. Сьмерць, асабліва заўчасная, у цяперашнім грамадзтве ўспрымаецца не як нешта натуральнае й непазьбежнае, а як жорсткая катастрофа. Спажываць — значыць зьнішчаць. А зьнішчаць — значыць авалодваць. Рэальнае — гэта тое, чым можна валодаць. Таму Ваш зварот да панятку «сымулякр» тут не зусім апраўданы.*

**Зьмітру Г.** зь Менску. *Напішыце таксама пра жыцьцё ў калёніі. Ці зьмяняецца нешта ў побыце, у адносінах вязьняў і адміністрацыі, у спосабе працы? Асабліва цікава ведаць пра чуткі, што ходзяць у турме: што гавораць пра ўладу і асобных людзей зь яе, што гавораць пра сьвет, пра жанчын, пра здароўе. Вельмі цікава было б, каб Вы занатавалі астрожныя «сучасныя сагі», кшталту тых, што запісвае наш гомельскі аўтар Сяргей Б. Ці ёсьць анэкдоты, якіх няма на волі і г.д. — гэта вартыя запісу рэчы. Ваш эцюд у часопіс «ARCHE» перадалі.* ■

**НАША НІВА** **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2792. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк $18^{05}$, 8.08.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 3984. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.